Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

СУВЯЗЬ САВЕЦКІХ ОРГАНАЎ ПАМІЖ САБОЙ І МАСАМІ—АСНОВА САВЕЦКАГА БУДАЎНІЦТВА

# БЮЛЕТЭНЬ
## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЕ ССР

30 САКАВІКА 1929 г.

№ 3 (62)

V-ты год ВЫДАНЬНЯ

ВЫДАНЬНЕ
КІРАЎНІЦТВА СПРАУ СНК
І ЭКАНАМІЧНАЙ НАРАДЫ БССР
МЕНСК — 1929

# ЗЬМЕСТ

## 1. Пастанова Эканамічнай Нарады пры СНК БССР пра эканомнае ўжываньне дэфіцытных будаўнічых матарыялаў.

Для больш эканомнага ўжываньня дэфіцытных будаўнічых матарыялаў—Эканамічная Нарада пры СНК БССР пастанаўляе:

1. Запрапанаваць усім дзяржаўным, каперацыйным і грамадзкім установам, арганізацыям і прадпрыемствам пры складаньні і зацьверджаньні праектаў будаўніцтва і пры выкананьні будаўнічых работ кіравацца далучанымі правіламі, выданымі Камітэтам па Будаўніцтву пры Эканамічнай Нарадзе БССР, пра ўжываньне дэфіцытных будаўнічых матарыялаў і замену іх недэфіцытнымі.

2. Нагляд за выкананьнем гэтых правілаў ускласьці на мясцовыя органы будаўнічага кантролю.

3. Незалежна ад мерапрыемстваў, прадугледжаных далучанымі правіламі, абавязаць усе ўстановы і прадпрыемствы, якія вядуць будаўнічыя работы, прымаць і іншыя захады для больш эканомнага скарыстаньня дэфіцытных будаўнічых матарыялаў.

Старшыня Эканамічнай Нарады
пры СНК БССР *М. Карклін.*

Сакратар Эканамічнае Нарады
пры СНК БССР *В. Крывіцкі.*

21 сакавіка 1929 г.

---

*Дадатак.*

## Правілы пра ўжываньне дэфіцытных будаўнічых матарыялаў і замену іх недэфіцытнымі.

### I. Будаўнічая цэгла (гліняная і сілікатная).

1. Не дапушчаць лішняй, не апраўдваемай статычнымі і тэрмічнымі разрахункамі, таўшчыні цагляных сьцен.

2. Ужываць ва ўсіх выпадках, калі гэта магчыма, цагляныя сьцены палегчаных канструкцый. У такіх выпадках прапануюцца наступныя канструкцыі:

а) кладка ў 1,5—2 цэглы з простападнымі і паземнымі каналамі, якія запаўняюцца тэрмаізолятарамі (шлакі, ніжэйшыя гатункі азбэсту, трэпель, магнэзіт, попел, тарпяны парашок, тарпяная дробязь, сфагнум, мох і д. п.);

б) кладка ў 1—1,5 цэглы з ацяпленьнем знадворку тарпянымі плітамі (тарпалеум, тарпіт і інш.), камышытам, саламітам, шэвелінам, маразінам, гэраклітам і д. п.);

в) кладка ў 1,5—2 цэглы з ужываньнем цёплай цэглы: пустацелай, порыстай і трэпельнай, а таксама каменьняў і пліт з цёплага бэтона: шлакавага, шлака-апілачнага, пемзавага, трэпельнага, коксавага, газавага і інш.;

г) 1) кладка па тыпу Герарда і Пруса з запаўненьнем паміжсьценнай пустаты тэрмаізолятарамі і 2) кладка па тыпу Вутке з толевымі тэрмаізаляцыйнымі праслойкамі;

д) кладка з тэрмаізаляцыйных блёкаў па тыпу Некрасава, якія складаюцца з сілікатыраваных арганікаў (сфагнум, апрацованы едкім натрам і зьвязаны вапна-трэпельнаю рашчынаю);

е) каркасныя канструкцыі: жалеза-цагельны, цагельны і драўляны каркас з запаўненьнем пустаты па адным з вышэйпаказаных прыкладаў.

*Увага.* Ва ўсіх выпадках ужываньня палегчаных канструкцый цагляных сьцен і замены цэглы іншымі матарыяламі належыць статычным і тэрмічным разрахункам праверыць рацыянальнасьць і трываласьць іх ва ўсіх адносінах, высьветліць эканамічную мэтазгоднасьць іх ужываньня, а таксама магчымасьць забясьпечаньня такіх работ вопытным тэхнічным пэрсаналам і рабочай сілаю.

3. Забараняецца ўжываньне цэглы:

а) для слупоў, слупкоў, розных агароджаў і платоў, замяняючы яе дрэвам, натуральным каменьнем і лёгкімі канструкцыямі з старых бракованых жалезных труб і д. п.;

б) для леднікаў і іншых пабудоў службовага і гаспадарчага прызначэньня пры грамадзкіх і іншых будынках, замяняючы яе дрэвам і натуральным каменьнем;

в) для тратуараў, падлогаў і д. п., замяняючы яе натуральным каменьнем, дрэвам, вапнавым бэтонам з заціркай цэмэнтам, заліўкай асфальтам і д. п.;

г) для ганкаў, ступеняй, сходак і д. п., замяняючы яе натуральным каменьнем і дрэвам;

д) для агнятрывалых перакрыцьцяў, замазак і засыпак зьверх накатаў, замяняючы ў агнятрывалых яго перакрыцьцях шлака-бэтонам і алебастравымі плітамі, а для замазак і засыпак—саламітам, камышом, попелам, трэпелем, сфагнумам, торпам, апілкамі і д. п. як у відзе засыпак, гэтак і ў зьвязаным алебастравай ці глінянай рашчынай відзе;

е) для прыгатаваньня друзу з цэглы-палаўняка, ужываючы для гэтага дробны бой (чверткі) і брак з цагельняў, будынкаў і разборак старых пабудоў.

4. Абмежаваць ужываньне цэглы:

а) для санітарна-тэхнічных пабудоў: вадасьцёкаў, вадаспускаў, каналізацыйных калектараў і тунэляў, зьліўных, выграбных і памыйных ям, аглядных, вадазборных і вадаразборных студняў і капальняў, замяняючы яе дрэвам, натуральным каменьнем, ганчарнымі трубамі, а ў неабходных выпадках—бэтонам і жалеза-бэтонам, у залежнасьці ад прызначэньня пабудоў і ўмоў грунту;

б) для суцэльных падмуровак і паасобных слупоў, дапушчаючы толькі абліцоўку (ня больш, чым у адну цэгліну) сьцен сутарэньняў па санітарна-гігіенічных меркаваньнях, напрыклад, пры пабудаваньні пральняў і д. п., прычым забараняецца пабудова суцэльных цагляных падмуровак пад драўляныя, рубленыя, каркасныя і інш. будынкі, калі матарыял поўнасьцю не скарыстан у статычных адносінах, замяняючы натуральным каменьнем, адсартыраваным жалязьняком і боем цэглы,

пяшчанымі падушкамі і нізкапроцантнымі пяшчанымі і іншымі бэтонамі, у залежнасьці ад умоў грунту. Для малакаштоўных будынкаў службовага характару, а таксама і для часовых з тэрмінам службы да 15 гадоў, прапануецца ўжываць дрэва.

## II. Портланд-цэмэнт і алябастр.

5. Портланд-цэмэнтная рашчына забараняецца да ўжываньня:

а) для кладкі падмуркаў у сухіх грунтох, пры напружаньнях, не перавышаючых 8 кгр. на 1 кв. см. кладкі, ужываючы для гэтага вапнавую рашчыну;

б) для кладкі цокаляў, сьцен, паўцыркульных скляпеньняў, арак і іншых элемэнтаў пабудоў, якія не пападаюць пад страсаньне і пры напружаньнях не перавышаючых 8 кгр. на 1 кв. см. кладкі, замяняючы яго вапнаваю рашчынаю;

в) для тынкаваньня сьцен, столяў і іншых элемэнтаў пабудоў, якія не падпадаюць пад вільгаць, замяняючы яго вапнаваю рашчынаю;

г) для бэтонаў пад заснаваньні для падлог на лагах, асфальтавых і плігачных тратуараў, падлог і д. п., замяняючы яго вапнаю і мяшанаю рашчынаю;

д) для змазак па накатах з розных тэрмаізолятараў, замяняючы яго глінай і саломеннай сечкай або алябастраваю рашчынаю;

е) для карнізаў, паяскоў і інш. унутры памяшканьняў, замяняючы яго вапнаваю рашчынаю з прымешкай алябастру;

6. Абмежаваць ужываньне портланд-цэмэнту:

а) для падмуркаў у сырых грунтох і для кладкі і іншых элемэнтаў пабудоў, што пападаюць пад дзеяньне вільгаці, пры напружаньнях, не перавышаючых 8 кгр. на 1 кв. см. кладкі, ён можа замяняцца вапнаваю рашчынаю з прымешкаю гідраўлічных дабавак: грануліраваныя шлакі, трэпель (кізельгур, дзіатаміт, інфузорная зямля), гідраўлічная вапна, шлакавы цэмэнт і г. д., прычым ужываньне портланд-цэмэнту ў якасьці гідраўлічнай дабаўкі да вапнавых рашчынаў (складаныя рашчыны) павінна дапушчацца толькі пры немагчымасьці атрымаць паказаныя вышэй дабаўкі;

б) для атынкаваньня цокаляў, сьцен, столяў і іншых элемэнтаў пабудоў, што падпадаюць пад дзеяньне вільгаці. Для пабудовы непрапушчаючай вады ізаляцыі між падмуркам і цокалем можа ўжывацца замест густых портланд-цэмэнтных рашчынаў асфальт, руберойд, толь, бяроста і г. д.;

в) для бэтонаў і тынкаваньняў пры пабудове вадасьцёкаў, вадасховаў, непраніклівых для вады падлогаў і д. п. У такіх выпадках да рашчыны з портланд-цэмэнту могуць прымешвацца матарыялы, якія даюць тынку і бэтонам непранікліваcьць для вады;

г) для прыгатаваньня бэтонных і цёплабэтонных каменьняў, замяняючы яго вапнаваю рашчынаю з прымешваньнем гідраўлічных дабавак, пералічаных у п. „а“, і скарачаючы ўжываньне портланд-цэмэнту да мінімуму.

7. Пры патрэбе ўжываньня цэмэнтных і складаных рашчын, зьмест іх павінен адпавядаць запатрабаваньням канструкцый і якасьці цэмэнта. Ужываньне высокапроцантных саставаў там, дзе гэта не выклікаецца тэхнічнай патрэбаю, не дазваляецца.

8. Абмежаваць ужываньне жалеза-бэтона, дапушчаючы яго толькі ў неабходных выпадках і ўстанаўляючы ў кожным выпадку колькасьць яго на падставе дасьледваньня дабавачных матарыялаў. На буйных і

адказных жалеза-бэтонных работах абавязкова лябораторнае спрабаваньне ўсіх частак бэтона.

9. Забараняецца ўжываньне алебастру:

а) для атынкаваньня каменных сьцен, агнетрывалых столяў і інш. элемэнтаў пабудоў, за выключэньнем карнізаў, пояскоў і д. п., замяняючы яго вапнаваю рашчынаю;

б) для атынкаваньня печак і комінаў унутры памяшканьняў і на вышках.

### III. Будаўнічае гатунковае жалеза.

10. Забараняецца ўжываць:

а) профільнае жалеза (двутаўровае, швелернае, вугалковае, рэйкі і інш.) пад праёмамі і пралётамі ня больш 2-х мэтраў, замяняючы яго перамычкамі і аркамі з цэглы ці натуральнага каменя, у залежнасьці ад асноўнага матарыялу сьцен;

б) жалезныя кроквы і фэрмы ў жылішчным, больнічным і школьным будаўніцтве, прычым жалезныя і жалеза-бэтонныя кроквы і фэрмы ў грамадзкім, транспартным і прамысловым будаўніцтве павінны таксама ва ўсіх магчымых выпадках замяняцца драўлянымі кроквамі;

в) жалезныя бэлькі для пабудовы міжпаверхавых перакрыцьцяў з драўлянымі накатамі, замяняючы іх дрэвам і бэлькамі тыпу Левандоўскага, прычым для забясьпечаньня моцнасьці перакрыцьцяў, вышыня бэляк не павінна быць менш $1/24$ пралёту, які перакрываецца, калі па статычных разрахунках ёсьць меншае сячэньне;

г) жалезныя бэлькі ва ўсіх выпадках, калі гэта не абумоўлена тэхнічнымі або супроцьпажарнымі патрабаваньнямі, замяняючы іх драўлянымі;

д) дахавае жалеза для пакрыцьця часовых і малакаштоўных пабудоў і будаваньняў дапаможнага і службовага характару ва ўсіх відах будаўніцтва, замяняючы яго глінянай і цэмэнтнай чарапіцай, натуральным і штучным шыфэрам, руберойдам, толем, гонтам, цёсам і фанэрай.

11. Абмежаваць ужываньне жалеза:

а) гатунковага і профільнага жалеза для пабудовы рам і пераплётаў ва ўсіх відах будаўніцтва, прычым пабудова жалезных рам і пераплётаў дапушчаецца толькі для вялікіх шкляных перакрыцьцяў (вакзалы, пасажы, рынкі і д. п.), замяняючы яго дрэвам, за выключэньнем сьветавых ліхтароў у гарачых і агнянебясьпечных вытворчых памяшканьнях;

б) гатунковага і профільнага жалеза для пабудовы розных агароджаў і д. п., замяняючы яго дрэвам, старымі газавымі трубамі і інш.;

в) профільнага жалеза, для будаваньня касаураў, каменных сходкаў, замяняючы яго старымі рэйкамі, паласавым і вугалковым жалезам;

г) дахавага жалеза для пакрыцьця асноўных пабудоў ва ўсіх відах будаўніцтва, замяняючы яго глінянай і цэмэнтнай чарапіцай, натуральным і штучным шыферам, руберойдам і толем. Пры немагчымасьці атрымаць паказаныя вышэй дахавыя матарыялы, а таксама па канструкцыйных і эканамічных меркаваньнях дазваляецца ўжываць дахавае жалеза па магчымасьці больш лёгкіх гатункаў.

### IV. Лясныя будаўнічыя матарыялы.

12. Забараняецца ўжываць:

а) чыстаабрэзныя і абрэзныя лесаматарыялы для будаваньня дапаможных і часовых пабудоў і прыладаў пры пабудаваньні складаў, павецяй, агароджаў, тварыл, рыштаваньняў, падмосткаў, кружал, апа-

лубкаў, качальных дошчак, насілак і д. п., замяняючы іх паўабрэзнымі і неабрэзнымі лесаматарыялямі і адыходамі ад расьпілоўкі круглага лесу (гарбылі, зрэзы і д. п.);

б) чыстаабрэзныя і абрэзныя лесаматарыялы для стрэх, слухавых вокан і ліхтароў, пераборак і падшывак столяй для тынкаваньня і д. п. элемэнтаў пабудоў, якія закрываюцца знадворку работамі другога віду (тынкаваньнем, дахам, падлогавым насьцілам і д. п.), замяняючы іх паўабрэзнымі і неабрэзнымі лесаматарыялямі і адыходамі ад расьпіловак круглага лесу (горбылі, зрэзы і д. п.), скарыстоўваючы ў першую чаргу лесаматарыялы ад разборкі дапаможных і часовых пабудоў і прыладаў;

в) круглы першагатунковы лес для будаваньня дапаможных і часовых пабудоў і прыладаў, пералічаных у п. „а“, і для частак будынкаў, пералічаных у п. „б“, замяняючы яго круглым нізкагатунковым лесам, пераважна яловым і здаровым сухастойным і гарэлым, а таксама абрэзкамі і інш. адыходамі першагатунковага лесу.

13. Абмежаваць ужываньне круглага і піленага лесу павялічаных сячэньняў, не апраўдваемых статычнымі і тэрмічнымі разрахункамі, а іменна:

а) для рубкі знадворных сьцен жылых, больнічных, школьных і д. п. цёплых будынкаў браць круглы лес не таўсьцей 22 см., прычым прапануецца ўжываць здаровы сухастойны і гарэлы лес, а таксама яловы лес нароўне з хваёвым як для знадворных сьцен будынкаў (за выключэньнем двух ніжніх і аднаго верхняга вянкоў зрубу), так і для іншых часьцей будынкаў, не падпадаючых сталаму і непасрэднаму дзеяньню вільгаці;

б) круглага лесу для рубкі знадворных сьцен прамысловых, складавых, службовых і д. п. халодных будынкаў, замяняючы яго такім-жа лесам, які паказан у папярэднім п. „а“, але не таўсьцей 18 см. і па магчымасьці, замяняючы круглы лес пласьцінамі (развалам), не таўсьцей 10 см.;

в) круглага лесу для рубкі розных студняў, скляпоў, выграбных і д. п. ям, замяняючы яго пласьцінамі (развалам) не таўсьцей 10 см.

14. Знадворныя і ўнутраныя рубленыя сьцены для будынкаў усіх прызначэньняў што не патрабуюць доўгавечнасьці і асобнай капітальнасьці, трэба замяняць драўлянымі каркаснымі канструкцыямі розных сыстэм, тэарэтычна абгрунтаванымі і выпрабаванымі ў вопытным саюзным будаўніцтве.

## V. Іншыя дэфіцытныя матарыялы.

15. Забараняецца ўжываць:

а) бэмскае шкло для часовых, дапаможных, гаспадарчых, і службовых будынкаў ва ўсіх відах будаўніцтва, замяняючы яго паўбелым шклом, прычым разьмеры пераплёту павінны быць узгоднены з існуючымі на рынку разьмерамі шкла з тым, каб зьменшыць колькасьць адыхода (абрэзкаў) да мінімуму;

б) аліфу і масьляныя фарбы па каменю і тынкаваньню для фасаду будынкаў усіх відаў будаўніцтва, а таксама і для каменных агароджаў і інш. агараджэньняў, замяняючы іх сілікатнымі, клеявымі і вадзянымі фарбамі;

в) аліфу і масьляныя фарбы для драўляных агароджаў і інш. агараджэньняў, замяняючы іх сілікатнымі фарбамі, швэдзкімі і фінляндзкімі саставамі;

г) аліфу і масьляныя фарбы па каменю і тынкаваньню для афарбоўкі нанава сьцен і столяй унутры будынкаў ва ўсіх відах будаў-

ніцтв, замяняючы іх сілікатнымі, клеявымі і вадзянымі фарбамі і аклейкай паперою і шпалерамі. Ужываньне аліфы і масьляных фарбаў па п. „г“ дазваляецца толькі для афарбоўкі сьцен і столяў у памяшканьнях для апэрацыі, перавязачных і д. п. памяшканьнях, а таксама панэляў у лазьнях, ванных, грамадзкіх уборных і каля вадаразборных, умывальных ракавін і пры рамонце раней акрашаных масьлянай фарбаю аб‘ектаў;

д) павялічаныя шкляныя паверхні для натуральнага асьвятленьня ва ўсіх відах будаўніцтва, не апраўдваемых санітарна-гігіенічнымі патрабаваньнямі.

16. Абмежаваць ужываньне:

а) натуральнай аліфы для афарбоўкі жалеза, не падпадаючага пад дзеяньне вільгаці, як-та: зонты над ачагамі, перад топкамі печак і д. п. і для прыгатаваньня клеявых шпаклёвак і замазак, не патрабуючых цьвёрдасьці, як напрыклад: для абмазкі зімніх пераплётаў, замяняючы яе сурагатнай аліфай і рознымі спэцыяльнымі лакамі (кузбаскім, асфальтавым і інш.);

б) натуральнай аліфы для афарбоўкі драўляных вырабаў і частак будынкаў, якія не падпадаюць пад непасрэднае дзеяньне вільгаці, як: унутраныя дзьверы, сьценныя і інш. шкапы, палічкі і д. п., замяняючы яе сурагатнай аліфай, пратраўкай (марылка і інш.) і пакрываючы потым лакам (сьпіртавым, масьляным і інш.) і казеінавымі фарбамі.

*Увага.* Пры ўжываньні штучнай аліфы яе трэба папярэдне спрабаваць, як у сэнсе магчымасьці афарбаваньня, гэтак і ў адносінах высыханьня і прысыханьня.

Старшыня Камітэту па Будаўніцтву
пры Эканамічнай Нарадзе БССР *А. Гэйнэ.*

Члены Прэзыдыуму Камітэту па Будаўніцтву { *О. Краўзэ.* *Кавалёў.*

13 сакавіка 1929 г.

---

## 2. Абежнік Камітэту па Будаўніцтву пры Эканамічнай Нарадзе БССР

**пра парадак зацьверджаньня праектаў непрамысловага будаўніцтва.**

*Усім будуючым установам і арганізацыям.*

У газэце „Савецкая Беларусь“ за 8 сакавіка 1929 г. № 54 апублікавана інструкцыя пра парадак зацьверджаньня праектаў непрамысловага будаўніцтва.

Паводле гэтай інструкцыі зацьверджаньне праектаў, у залежнасьці ад катэгорыі і роду будаўніцтва, ускладзена на народныя камісарыяты, цэнтральныя ўстановы, акруговыя выканаўчыя камітэты і асоб, якія кіруюць ўстановамі, што вядуць будаўніцтва (п. п. 7 і 8).

Органы будаўнічага кантролю выдаюць дазволы на ажыцьцяўленьне зацьвярджаных ва ўстаноўленым парадку праектаў, але не зацьвярджаюць іх (акруговыя выканаўчыя камітэты могуць ускласьці свае функцыі па зацьверджаньні праектаў на акруговых інжэнэраў).

Ня гледзячы на ўстаноўлены парадак, у Камітэт па Будаўніцтву прысылаюцца праекты эскізныя, а не канчатковыя (п. 16 інструкцыі), і ні кім не зацьверджаныя.

Камітэт па Будаўніцтву паведамляе, што дазвол на ажыцьцяўленьне праектаў можа быць выдан толькі па канчатковых праектах, зацьверджаных ва ўстаноўленым парадку.

Разам з гэтым падаецца выпіска з „Правіл аб правох і абавязках асоб, якія складаюць і зацьвярджаюць праекты і каштарысныя вылічэньні кошту будаўніцтва", выданых Камісіяй па Будаўніцтву пры СПА за 19 студзеня 1929 г.:

„§ 10. Складальнік праекту нясе адказнасьць за паўнату і правільнасьць разрахункаў, за захаваньне дзейных будаўнічых правіл і норм, за мэтазгоднасьць выбраных канструкцый і рацыянальнасьць агульнага рашэньня даручанага яму будынку.

*Увага.* Складальнік праекту не нясе адказнасьці за прапанаваныя ім у праекце навейшыя і мала дасьледаваныя канструкцыі і мэтады разрахунку, калі аб іх дапушчальнасьці ёсьць заключэньне адпаведных навукова-тэхнічных арганізацый ці экспэртызы".

„13. Кансультанты, якія прымаюць удзел у распрацоўцы ці складаньні праекту, а таксама экспэрты па праекту зьяўляюцца адказнымі ў межах заданьняў абумоўленых зробленымі з імі умовамі, а ў выпадку адсутнасьці умоў—у межах падпісаных з імі заключэньняў".

„15. Асоба, якая зацьвярджае канчатковы праект поўнасьцю, нясе адказнасьць за мэтазгоднасьць і эканамічнасьць праекта, што зацьвярджаецца, і адпаведнасьць яго данаму заданьню.

16. Асобы, якія правяраюць праект ці каштарыс, у працэсе іх разгляду і зацьверджаньня, абавязаны сьведчыць сваім подпісам правільнасьць правераных імі дакумэнтаў.

17. Калі пры зацьверджаньні праекта ці каштарыса ў іх уносяцца зьмены, то адказнасьць за вынікі гэтых зьмен ускладаецца на асоб, якія іх унесьлі, і на тых, што зацьвердзілі гэтыя зьмены.

18. Адказнасьць за зьмены, што ўносяцца ў праект, і каштарыс пасьля іх зацьверджаньня ў працэсе ажыцьцяўленьня будаўніцтва нясуць асобы, што ўнесьлі гэтыя зьмены, а таксама і асобы, якія іх зацьвердзілі".

Старшыня Камітэту па Будаўніцтву
пры Эканамічнай Нарадзе БССР *А. Гэйнэ.*

23 сакавіка 1929 г.

---

## 3. Абежнік Народнага Камісарыяту Працы БССР

### пра парадак запаўненьня лісткоў непрацаздольнасьці прадпрыемствамі і ўстановамі.

Пры гэтым абвяшчаецца для кіраваньня і выкананьня вынятка з інструкцыі НКП СССР за 28 сьнежня 1928 г. № 753 „Пра парадак запаўненьня і хаваньне дакумэнтаў па выплаце дапамог і пэнсій".

I Першыя дзьве калонкі адваротнай старонкі лістку непрацаздольнасьці запаўняюцца прадпрыемствам альбо ўстановай па месцы работы застрахованага.

У графе „Пасада" павінна быць паказана тая пасада застрахаванага, якую ён фактычна займаў у апошні дзень яўкі на работу.

II. Графа „Прыняты (пераведзяны) на гэту пасаду з . . . ." запаўняецца толькі ў тым выпадку, калі застрахаваны быў заняты на гэтай пасадзе менш за 3 месяцы; прычым, калі застрахаваны пры найме ў

прадпрыемства альбо ўстанову быў зараз-жа прыняты на гэту пасаду, то слова „пераведзяны“ выкрэсьліваецца; калі-ж застрахаваны спачатку быў прыняты на іншую пасаду і толькі потым пераведзяны на гэтую пасаду, дык выкрэсьліваецца слова „прыняты“.

III. У графе „Не працаваў з . . . па . . . “ прадпрыемства альбо ўстанова паказвае, з якога па які дзень застрахаваны не працаваў. Гэтыя зьвесткі паказваюцца дроб'ю—у якой лічнік—дзень, а назоўнік дробу—месяц. У графе „Усяго“ паказваецца літарамі лік дзён і лічбамі—колькасьць гадзін.

IV. У графе „Тарыфная стаўка (аклад) па . . . . разраду“ паказваецца разрад па тарыфнай сетцы.

Пры паказаньні месячнай тарыфнай стаўкі (акладу) выкрэсьліваюцца словы „у дзень“, а пры паказаньні дзённай тарыфнай стаўкі выкрэсьліваюцца словы „у месяц“.

V. Калі застрахаваны знаходзіўся на часовай альбо сэзоннай рабоце, дык у графе „Работа часовая—сэзонная з . . . па . . . “ адпаведна выкрэсьліваецца слова „сэзонная“ альбо „часовая“.

VI. Калі застрахаваны прыняты на часовую работу на нявызначаны тэрмін альбо для замяшчэньня адсутных работнікаў, дык ў графе „Па . . . . “ павінна быць адпаведна паказана „ня вызначаны“ альбо „замяшчае“.

VII. У 2 калонцы у графе „Няшчасны выпадак“ прадпрыемствы альбо ўстановы павінны выкрэсьліць непатрэбныя зьвесткі (напр., калі няшчасны выпадак здарыўся з прычыны працоўнага калецтва, выкрэсьліваюцца словы „Ня ў сувязі з вытворчасьцю“. У выпадку працоўнага калецтва прадпрыемства альбо ўстанова павінны паказаць № паведамленьня, што паслана інспэктару працу.

VIII. Скарбнікі і іншыя асобы, што выплачваюць дапамогі па часовай непрацаздольнасьці паводле абежніку НКП СССР за 22 верасьня 1928 г. № 553 (Изв. НКТ 1928 г. № 43) павінны зварочваць увагу на тое, каб на лістках непрацаздольнасьці, выданых у сувязі з пакалечаньнем, прадпрыемства альбо ўстанова паказвалі № паведамленьня, якое было складзена ў гэтым выпадку, альбо каб паказвалі, чаму гэты выпадак не падлягаў рэгістрацыі. Калі паказаныя адзнакі ня зроблены прадпрыемствам альбо ўстановаю, дык зараз-жа трэба патрабаваць высьвятленьня прычыны адсутнасьці гэтых адзнак з тым, каб аб выніках дадаткова была паведамлена страхавая каса.

IX. У графе „Заработак“ прадпрыемства альбо ўстанова паказвае поўнасьцю зарплату, што выяўлена па апошняй пасадзе за тры м-цы, папярэднія месяцу наступленьня часовай непрацаздольнасьці (напрыклад), калі рабочы захварэў 28 ліпеня, дык паказваецца заработная плата за красавік, май і чэрвень).

У першых трох радках графы „Заработак“ паказваецца літарамі месяц, лічбамі – лік рабочых дзён, устаноўленных для данага рабочага за даны месяц і сума выплачанай зарплаты.

У наступнай графе (штрыхоўка) літарамі паказваецца сума выплачанай зарплаты за паказаныя тры месяцы. Калі дапамога па часовай непрацаздольнасьці павінна быць назначана страхавымі органамі паводле арт. 24 „Правіл аб назначэньні і выдачы дапамог па часовай непрацаздольнасьці (пастанова Саюз.Савету Сац. Страх. пры НКП СССР за 30 лістапада 1927 г.—Изв. НКТ 1928 г. № 1(2), гэта значыць асобам, якія па характару свае прафэсіі сыстэматычна пераходзяць з аднэй работы на другую, дык у графе „Зарплата“ павінна быць паказана тая зарплата, якая атрымана застрахаваным за 2 месяцы, папярэднія дню страты працаздольнасьці. Гэтыя зьвесткі запаўняюцца страхавым

органам паводле справак, паданых застрахаваным у дзень падачы лістка непрацаздольнасьці.

X. Калі разьлік дапамогі належыць зрабіць паводле арт. 21 „Правіл аб назначэньні і выдачы дапамог па часовай непрацаздольнасьці“ (Изв. НКТ 1927 г. № 23), г. зн., ва ўсіх выпадках вызначэньня дапамогі па часовай непрацаздольнасьці, таксама і асобам, што карыстаюцца іншымі днямі адпачынку замест агульна-ўстаноўленых і для якіх лік выхадаў на работу ўстаноўлены ў меншай колькасьці, чым лік каляндарных рабочых дзён месяца, дык зьвесткі аб зарплаце, атрыманай застрахаваным у месяц часовай непрацаздольнасьці, належыць паказаць ў вольным месцы ў верхняй старонцы каля адзнакаў аб няшчасным выпадку, а ў працягу лістку непрацаздольнасьці—у правым куце першай калонкі за словамі „разьлік дапамогі“.

XI. Зьвесткі аб зарплаце ў месяц непрацаздольнасьці запаўняе прадпрыемства ці ўстанова альбо страхавы орган на падставе спраўкі прадпрыемства альбо ўстановы, пры чым у апошнім выпадку спраўка павінна быць далучана да лістка непрацаздольнасьці.

Пажадана, каб прадпрыемства альбо ўстанова выдавала спраўку на паперы разьмерам 105×74.

XII. У працягу лістка непрацаздольнасьці зьвесткі аб зарплаце ў месяц непрацаздольнасьці запаўняе страхавы орган паводле даных лістку непрацаздольнасьці.

XIII. Ва ўсіх выпадках у графе „Заробак“ прадпрыемства альбо ўстанова павінны паказаць колькасьць рабочых дзён, у якія застрахаваны фактычна працаваў у кожны з паказаных 3 месяцаў.

XIV. Зьвесткі аб водпуску (чарговым, дадатковым, альбо без захаваньня зарплаты) належыць паказваць толькі ў тым выпадку, калі водпуск дадзены ў час часовай непрацаздольнасьці застрахаванага, а ў адносінах да водпуску без захаваньня зарплаты таксама на працягу 3 месяцаў, папярэдніх месяцу часовай непрацаздольнасьці.

Калі застрахаваны знаходзіўся ў чарговым водпуску і ў водпуску без захаваньня зарплаты, дык належыць паказаць час абодвух водпускаў асобна.

XV. У графе „Прадпрыемства прыпынена з . . . па . . .“ паказваецца час прыпыненьня прадпрыемства толькі ў тым выпадку, калі прыпыненьне было на працягу трох месяцаў, папярэдніх месяцу наступленьня непрацаздольнасьці альбо ў месяц часовай непрацаздольнасьці застрахаванага.

XVI. У наступнай графе даюцца зьвесткі аб захаваньні альбо незахаваньні зарплаты за час прыпыненьня прадпрыемства.

У графе „Дзень адпачынку“ належыць паказаць дзень адпачынку толькі тады, калі ён не супадае з днём адпачынку, агульна-ўстаноўленым для гэтай мясцовасьці, і калі гэты дзень прыходзіцца на час часовай непрацаздольнасьці застрахаванага.

XVII. Апроч гэтага, калі застрахаваны працуе ня ўсе каляндарныя дні, дык таксама паказваюцца дні адпачынку, пры чым у гэтым выпадку яны паказваюцца дроб'ю (дзень і месяц адпачынку).

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Я. Мяркулаў.*

Сакратар Народнага Камісарыяту Працы БССР *А. Круглік.*

20 лютага 1929 г.
№ 11.

## 4. Абежнік Народнага Камісарыяту Працы БССР

### пра мерапрыемствы органаў працы да Міжнароднага жаночага дню ў 1929 годзе.

*Акруговым інспэкцыям працы.*

У сувязі з набліжэньнем Міжнароднага жаночага дню Народны Камісарыят Працы БССР лічыць патрэбным праверыць усю работу ў галіне рэгуляваньня жаночае працы і выявіць дасягненьні і недахопы ў гэтай рабоце.

I. Асноўную масу жанчын, зарэгістраваных на біржах працы, складаюць некваліфікаваныя і малакваліфікаваныя работніцы, таму неабходна прыняць належныя меры да іх перанавучаньня.

II. У галіне павялічэньня ліку жанчын у вытворчасьці і палепшаньня ў ёй жаночай працы неабходна прыняць захады для поўнага правядзеньня ў жыцьцё адпаведнай пастановы НКП БССР за 1/IV—1927 г. № 51 (Бюл. СНК 1927 г. № 11).

III. У справе замацаваньня жаночае працы на вытворчасьці значную ролю мае пастанова ЦВК і СНК БССР за 15/III—1928 г. „Пра ўзмацненьне абслугоўваньня ясьлямі работніц прамысловых прадпрыемстваў“ (З. З. БССР 1928 г. № 12, арт. 98), паводле якой на арганізацыю і ўтрыманьне ясьлей на прадпрыемствах адлічаецца ад 5 да 10% з фонду на палепшаньне быту рабочых і 1/4% з фонду заработнай платы на гэту мэту. Неабходна прасачыць за няўхільным выкананьнем гэтае пастановы.

IV. Застойнасьць беспрацоўя сярод жанчын высоўвае пытаньне аб патрэбе ўзмацніць змаганьне з няправільным звальненьнем жанчын з прадпрыемстваў і ўстаноў.

V. Трэба толькі ў выключных выпадках даваць дазвол на скарачэньне цяжарных жанчын і адзінокіх жанчын, што маюць дзяцей да 1 году (пастанова НКП БССР за 10/X—1925 г.—Бюл. СНК 1925 г. № 6).

VI. Ва ўсіх выпадках, калі пры скарачэньні штатаў парушаецца чыннае законадаўства і кал. дагаворы аб дачы пераваг жанчынам адзіночкам і цяжарным, неабходна рашуча змагацца з гэтымі зьявішчамі як органам працы, так і пракуратуры.

VII. Інспэкцыям працы неабходна прымаць належныя захады да адхіленьня маючыхся выпадкаў перабросак жанчын з аднэй работы на другую, калі гэта не выклікаецца патрэбамі вытворчасьці, і каб у гэтых выпадках ня зьніжаўся іх фактычны заробак; неабходна таксама прыняць належныя захады, каб жанчыны, што зварочваюцца на працу пасьля родаў, атрымлівалі тую-ж работу з аднолькавай аплатай, што і да родаў.

VIII. Інспэкцыям працы трэба ўжыць належныя захады да таго, каб жанчынам, якія кормяць грудзьдзмі двойню, даваліся-б павялічаныя перапынкі для кармленьня (арт. 134 Код. Зак. аб Працы); канкрэтна, які тэрмін даецца для гэтае мэты, павінна ўстанаўляцца ў правілах унутранага парадку.

IX. У сувязі з пераходам на 7-гадзінны рабочы дзень, на органы працы ўскладаюцца наступныя задачы: трэба прыняць належныя захады, каб цяжарныя жанчыны з 6 месяцаў цяжарнасьці і жанчыны, што кормяць грудзьмі, на працягу першых 5 месяцаў кармленьня, ні ў якім разе не дапушчаліся да начное работы.

X. У адносінах да парадку аплаты жанчын у Міжнародны жаночы дзень трэба кіравацца пастановай НКП БССР за 12 лютага 1928 г. (Бюл. СНК 1928 г. № 2).

XI. Дапамогу на кармленьне дзіцяці за сакавік страхавыя касы павінны выдаць не пазьней 8 сакавіка б. году.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Д. Захарава.*
Сакратар Народнага Камісарыяту Працы БССР *А. Круглік.*

26 лютага 1929 г.
№ 12.

---

## 5. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

### пра скасаваньне пастановы свае за 20 мая 1925 г. „Аб умовах працы ў сельскай гаспадарцы".

Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

I. Пастанову НКП БССР за 20 мая 1925 г. „Аб умовах працы ў сельскай гаспадарцы" (Бюл. СНК 1925 г. № 1) скасаваць.

II. Паасобныя пытаньні, што вызначаліся гэтай пастановай, рэгуляваць наступнымі пастановамі:

а) аб рабочым часе—пастановай ЦВК і СНК СССР за 20 лютага 1929 г. (Изв. ЦИК СССР и ВЦИК—за 22 лютага 1929 г.) і пастановаю НКП БССР за 25 мая 1926 г. № 37 (Бюл. СНК 1926 г. № 8);

б) аб жылішчах і даглядзе за жывёлай—пастановай НКП і ВСНГ СССР за 14 лістапада 1923 г. № 154 (Сборник обязательных постановлений по технике безопасности и промышленной санитарии, 1923 г. вып. 3);

в) аб мерапрыемствах супроць няшчасных выпадкаў пры рабоце з сельска-гаспадарчымі машынамі—пастановай НКП СССР за 10 кастрычніка 1927 г. № 318 (Изв. НКТ 1927 г. № 46/47), якая ўведзена ў сілу на тэрыторыі БССР пастановаю НКП БССР за 14 мая 1928 г. № 36 (Бюл. СНК 1928 г. № 6).

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Д. Захарава.*
Ст. Сельска-Гаспадарчы Інспэктар НКП БССР *Л. Лашкевіч.*

6 сакавіка 1929 г.
№ 14.

---

## 6. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы і Народнага Камісарыяту Аховы Здароўя БССР

### пра зьмену арт. 3 пастановы свае за 11 мая 1928 году № 34 „Пра мэдыцынскія агляды рабочых і служачых, занятых у харчовых прадпрыемствах, гандлі і прамысловасьці і прадпрыемствах грамадзкага харчаваньня".

Народныя Камісарыяты Працы і Аховы Здароўя БССР пастанаўляюць запісаць арт. 3 пастановы свае за 11 мая 1928 г. № 34 „Пра мэдыцынскія агляды рабочых і служачых, занятых у харчовых прадпрыемствах, гандлі і прамысловасьці і прадпрыемствах грамадзкага харчаваньня" (Бюл. СНК 1928 г. № 6) у наступнай рэдакцыі:

„Абавязковасьць пэрыадычнага ў часе працы мэдыцынскага абгляду павінна быць прадугледжана ў правілах унутранага парадку кожнага прадпрыемства.

Наймальнікі, якія не праходзілі мэдыцынскага абгляду паводле арт. 1 гэтае пастановы, таксама наймальнікі, якія прымаюць на службу асоб, што не праходзілі папярэдняга мэдыцынскага абгляду, прыцягваюцца да адказнасьці ў адміністрацыйным парадку“.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Д. Захарава.*

Народны Камісар Аховы Здароўя БССР *М. Барсукоў.*

Узгоднена з ЦСПСБ:
Нам. Загадчыка Тарыфна-Эканамічнага
Аддзелу ЦСПСБ З. *Каган.*

7 сакавіка 1929 г.
№ 75.

---

## 7. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

### пра дачу права зволеным адлучацца для рэгістрацыі на біржы працы.

Для разьвіцьця арт. 88 Код. Зак. аб Працы БССР, Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

I. Пры скасаваньні тэрміновага альбо бястэрміновага працоўнага дагавору па прычынах, прадугледжаных п. п. „а“ „б“ і „в“ арт. 47 Код. зак. аб Працы, калі наймальнік ня выплачвае асобе, што нанялася, выходную дапамогу, але папярэджвае яе за два тыдні аб наступным звальненьні—працоўны мае права адлучацца з месца работы для рэгістрацыі на біржы працы альбо для падшуканьня працы бяз вылікаў заработнай платы за прапушчаны час з тым, каб колькасьць гадзін адлучкі не перавышала 10.

II. Працоўныя (якія павінны быць зволены), якія зарэгістраваны паводле арт. 1 гэтае пастановы на біржах працы, вызваляюцца ад яўкі на адзнакі на біржу працы аж да атрыманьня імі разрахунку ад наймальніка, што павінна быць адзначана наймальнікам у пасьведчаньні альбо ў разьліковай кніжцы.

Народны Камісар Працы БССР *К. Бэнэк.*

Сакратар Народнага Камісарыяту Працы
БССР *А. Круглік.*

8 сакавіка 1929 г.
№ 16.

---

## 8. Абежнік Народнага Камісарыяту Працы БССР

### пра камплектаваньне броні падлеткаў у прамысловых каперацыйных таварыствах (арцелях).

*Усім Акруговым Інспэкцыям Працы.*

Народны Камісарыят Працы БССР паведамляе:

1. Нормы броні падлеткаў, устаноўленыя пастановамі ЦВК і СНК СССР за 1 жніўня 1928 г. „Пра мінімальныя нормы броні падлеткаў у прамысловасьці і іншых галінах народнае гаспадаркі“ (З. З. СССР 1928 г. № 49, арт. 437), СНК БССР за 24 сьнежня 1928 г. „Пра нормы броні падлеткаў“ (З. З. БССР 1928 г. № 37, арт. 354) і СНК БССР за

25 лютага 1925 г. „Пра ўстанаўленьне колькасьці падлеткаў у адносінах да дарослых рабочых у дробных прадпрыемствах“ (З. З. БССР 1925 г. № 16 арт. 114) пашыраюцца таксама і на прадпрыемствы прамысловай капярацыі.

2. З прычыны асаблівасьцяй умоў працы на прадпрыемствах прамысловай капярацыі, Народным Камісарыятам Працы СССР па гэтым пытаньні будзе выдадзена спэцыяльная інструкцыя, інструкцыя-ж НКП СССР за 22 кастрычніка 1928 г. № 619 (Изв. НКТ 1928 г. № 46/47) на прадпрыемствы прамысловай капярацыі не пашыраецца.

3. Да часу выданьня НКП СССР паказанай вышэй інструкцыі камплектаваньне броні падлеткаў у прадпрыемствах прамысловай капярацыі павінна рабіцца па нормах, вызначаных у законах, паказаных у арт. 1-м гэтага абежніку, пры чым парадак камплектаваньня павінен устанаўляцца згодай паміж праўленьнем каперацыйнага таварыства і адпаведным прафэсіянальным саюзам.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Я. Мяркулаў.*

Ст. Інспэктар па рэгуляваньні рынку працы
НКП БССР *С. Мышалаў.*

26 сакавіка 1929 г.
№ 17.

---

## 9. Тлумачэньне Народнага Камісарыяту Працы БССР

### пра парадак пакіданьня на сталай рабоце асоб, што прыняты як часовыя работнікі.

Народны Камісарыят Працы БССР растлумачвае:

I. Калі работнікі, прынятыя на часовую работу праз біржу працы, пакідаюцца па яе сканчэньні на рабоце па тэй-жа спэцыяльнасьці, то незалежна ад таго ці пакідаюцца яны пасьля гэтага на сталай альбо часовай рабоце—афармленьне праз біржу працы не патрэбна. Адпаведнае прадпрыемства альбо ўстанова ў такім выпадку павінна толькі паведаміць аб гэтым біржу працы.

II. Калі-ж работнікі, што прыняты на часовую работу, пакідаюцца па яе сканчэньні на рабоце іншай спэцыяльнасьці, то ў гэтых выпадках для пакіданьня іх на рабоце патрэбна санкцыя біржы працы.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Я. Мяркулаў.*

Ст. Інспэктар па рэгуляваньні рынку працы
НКП БССР *С. Мышалаў.*

Узгодзена з ЦСПСБ:
Нам. Заг. Тарыфна-Эканамічнага Аддзелу
ЦСПСБ *З. Каган.*

27 сакавіка 1929 г.
№ 18.

---

## 10. Абежнік Народнага Камісарыяту Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі БССР

### пра арганізацыю кіраўніцтва рацыяналізатарскай работай.

Абвяшчаецца абежнік НК РСІ СССР за 3/VIII—1928 г. пра арганізацыю кіраўніцтва рацыяналізатарскай работай устаноў.

Народны Камісар Рабоча-Сялянскай
Інспэкцыі БССР *А. Калнін.*

---

*Дадатак.*

## Абежнік Народнага Камісарыяту Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі СССР

### пра арганізацыю кіраўніцтва рацыяналізатарскай работай устаноў.

*У НК РСІ РСФСР, УССР, БССР, ЗСФСР, УзбССР і ТуркССР.*

Пытаньне пра рацыяналізацыю савецкага апарату становіцца ўсё больш і больш важным. Цяпер, калі заканчваецца работа простага адрэзваньня найбольш грубых і найбольш відавочных лішкаў у галіне апарата кіраўніцтва (20-процантнае скарачэньне) перад органамі РСІ паўстае ва ўвесь рост задача разьвіцьця сыстэматычнай рацыяналізатарскай работы ва ўстановах.

Вядома, што правядзеньне гэтае работы ва ўсёй масе нашых устаноў ні ў якім выпадку немагчыма аднымі сіламі апарату РСІ. Органы РСІ могуць правесьці рацыяналізатарскую работу толькі ў адзінках устаноў, у той час як гэта задача павінна вырашацца ў сотнях і тысячах ўстаноў, а гэта можна зрабіць, галоўным чынам, іх уласнымі сіламі і сродкамі.

Тым больш важна забясьпечыць сапраўднае палепшаньне работы тых органаў ведамсьцьвеннай рацыяналізацыі, якія маюцца, так званых арг. бюро. Да гэтага часу рабоце гэтых органаў аддаецца зусім невыстарчальная ўвага як з боку кіраўнікоў устаноў і грамадзкіх арганізацый гэтых устаноў, так і з боку органаў РСІ, на якія пастановаю Калегіі РСІ ўскладзена агульнае кіраваньне іх работаю.

Органам РСІ неабходна з прычыны гэтага ўзмоцніць сваю работу ў галіне кіраўніцтва рацыяналізацыяй савецкага апарату, маючы на ўвазе, што галоўнейшымі задачамі ўстаноў па рацыяналізацыі зьяўляюцца: спрачшэньне апарата праз перагляд яго функцый, скасаваньне непатрэбных функцый, спрашчэньне ўзаемаадносін між сабой, палепшаньне структуры ўстановы, палепшаньне якасьці работы па асноўных апэрацыях установы, палепшаньне тэхнікі плянаваньня, падліку і справаздачнасьці і пастаноўка кантролю выкананьня.

Органы РСІ павінны забясьпечыць ў бліжэйшы час пасьпешнае разгортваньне рацыяналізатарскай работы ўстаноў у паказаных напрамках. Для гэтага патрэбна:

1. Сыстэматычна праводзіць прагляд плянаў рацыяналізатарскіх работ усіх устаноў незалежна ад таго, ці маюцца ў іх аргбюро ці не, наглядаць за выкананьнем установамі намечаных па пляну буйных рацыяналізатарскіх работ, падцягваць адстаўшыя ўстановы да арганізацыйнага ўзроўню найбольш перадавых устаноў.

2. Вызначаць, у якіх установах і ў якім складзе павінны быць арганізаваны аргбюро і ў якіх установах можна ўскласьці рацыяналізатарскую работу на аднаго апэрацыйнага работніка з разгрузкай яго ад апэрацыйнай работы; дапамагаць установам падбіраць і павышаць кваліфікацыю рацыяналізатарскіх работнікаў, прапануючы ўстановам вылучаць на гэтую работу кваліфікаваных апэрацыйных работнікаў, якія маюць рацыяналізатарскую ўстаноўку, а таксама работнікаў, што займаюцца рацыяналізатарскай работай па грамадзкай лініі і праявіўшых сябе нізавых работнікаў.

3. Весьці сталую работу па арганізацыі абмену рацыяналізатарскім вопытам, вылучаць тыпічныя рацыяналізатарскія работы, пашыраць іх на другія ўстановы і дапамагаць установам, што сустракаюць перашкоды, праводзіць рацыяналізатарскія мерапрыемствы, якія ня могуць быць праведзены сваімі сіламі, і асабліва падтрымліваць мерапрыемствы і вопыт, накіраваныя да сьмелага спрашчэньня апарату.

4. Нарэшце, задачай органаў РСІ зьяўляецца праверка рацыяналізатарскіх работ, ацэнка іх дабраякаснасьці з пункту гледжаньня сучасных дасягненьняў і адпаведнасьці задачам установы, ацэнка тэмпу і ўмоў выкананьня работ і прапанова канкрэтных мерапрыемстваў для палепшаньня пастаноўкі рацыяналізацыі ў данай установе.

Пры правядзеньні работ ва ўсіх гэтых напрамках органы РСІ павінны шырока ўцягваць у рацыяналізатарскую работу грамадзкасьць. Таксама іх абавязкам зьяўляецца арганізацыя шырокага асьвятленьня ў друку дасягненьняў і недахопаў у рацыяналізатарскай рабоце ўстаноў.

Выкананьне ўсіх пералічаных задач павінна зьяўляцца сыстэматычнай работай органаў РСІ, а гэта патрабуе вылучэньня спэцыяльна на гэтую работу асобных працаўнікоў. У зьвязку з гэтым НК РСІ СССР прапануе арганізаваць у НК РСІ саюзных рэспублік спэцыяльныя групы рацыяналізацыі апарата і ўкамплектаваць іх кваліфікаванымі работнікамі. Гэтыя групы павінны неадкладна зьвязацца з групай рацыяналізацыі дзяржаўнага апарату, якая арганізавана НК РСІ.

У мясцовых-жа органах РСІ (край, вобл., губ., акр.) патрэбна вылучыць ня менш 1-2 працаўнікоў спэцыяльна для кіраваньня рацыяналізатарскай работай.

НК РСІ СССР прапануе ў месячны тэрмін паведаміць пра тыя захады, што будуць зроблены вамі ў зьвязку з гэтым.

Намесьнік Народнага Камісара РСІ СССР *Д. Лебедзь.*

Кіраўнік Групы Рацыяналізацыі Дзяржаўнага Апарату *В. Гросман.*

3 жніўня 1928 г.
№ 6479.

---

*Дадатак.*

## Усім Кіраўнікам ўстаноў, органам прафэсіянальных саюзаў і органам РСІ.

Пэрыяд рэканструкцыі нашае гаспадаркі патрабуе энэргічнага разьвіцьця і вядзеньня работ па рацыяналізацыі кіраўнічага, гаспадарчага, і гандлёвага (дзяржаўнага і каперацыйнага) апарату ў мэтах дапасаваньня яго да ўзрослай сацыялістычнай эканомікі і патрабаваньняў пралетарскай дэмакратыі.

Зьмест рацыяналізатарскай дзейнасьці, якая ў адбудоўчы пэрыяд па неабходнасьці заключалася або ў зьнішчэньні найбольш відавочных

недахопаў і лішкаў або ў выпраўленьні дробных недахопаў бягучай работы, павінен быць рашуча зьменен—паглыблен і пашыран. Для таго, каб палепшыць абслугоўваньне апаратам рабоча-сялянскіх мас, зрабіць апарат панятным і яшчэ больш даступным для гэтых мас, палегчыць уцягненьне працоўных у кіраваньне і кантроль над апаратам і разам з гэтым даць магчымасьць максымальнага зьмяншэньня і патаненьня апарату,—трэба паставіць сыстэматычную работу па сьмелым спрашчэньні апарата і палепшаньні якасьці яго работы.

Для вырашэньня гэтых задач адных сіл РСІ не выстарчае. Яны могуць быць вырашаны толькі сумеснымі сіламі органаў РСІ, саміх устаноў і прафсаюзных арганізацый. Органы РСІ павінны накіраваць сваю ўвагу на вырашэньне агульных пытаньняў рацыяналізацыі дзяржаўнага апарату і на палепшаньне сыстэмы кіраваньня наогул. Апроч таго, ім неабходна ўзмоцніць кіраўніцтва рацыяналізатарскай работай, якая праводзіцца самімі ўстановамі.

Установам і прадпрыемствам трэба адмовіцца ад вядзеньня рацыяналізатарскай работы пры тым або другім выпадку і не абмяжоўваць яе аб'ектамі другараднага значэньня. Работу ў галіне рацыяналізацыі трэба зрабіць абавязковай функцыяй кожнае ўстановы і прадпрыемства, якая павінна стала праводзіцца спэцыяльнымі органамі—бюро рацыяналізацыі апарата (аргбюро), у шчыльнай сувязі з грамадзкасьцю. Гэтым органам патрэбна забясьпечыць поўнае падтрыманьне як з боку кіраўнікоў устаноў, так і з боку органаў РСІ і прафэсіянальных арганізацый. Кіраўнікі ўстаноў павінны аддаваць максымум свае ўвагі кіраўніцтву работай гэтых органаў.

Задачай прафэсіянальных арганізацый зьяўляецца ўзмацненьне эканомработы як у галіне непасрэднай работы па палепшаньню апарата, так і ў галіне прымушэньня і дапамогі разьвіцьцю рацыяналізатарскіх работ па адміністрацыйнай лініі праз мабілізацыю грамадзкае думкі вакол пытаньняў палепшаньня апарата, у прыватнасьці—вакол работ бюро рацыяналізацыі і ўцягненьня ў рацыяналізатарскую работу шырокіх мас рабочых і служачых.

Для кіраваньня далучаюцца „Асноўныя палажэньні пра рацыяналізатарскую работу ва ўстановах“, якія маюць на мэце даць напрамак рацыяналізацыі, вызначыць арганізацыйныя формы гэтай работы, вызначыць узаемаадносіны паміж яе ўдзельнікамі (адміністрацыя, прафэсіянальныя саюзы і органы РСІ) і надаць усёй рабоце па рацыяналізацыі шырокі грамадзкі характар, што зьяўляецца галоўнымі момантамі пасьпяховасьці гэтай работы.

Намесьнік Народнага Камісара РСІ СССР *Д. Лебедзь.*

Сакратар ВЦСПС *Г. Мельнічанскі.*

9 жніўня 1928 г.
№ 2982.

---

*Дадатак.*

## Асноўныя палажэньні пра рацыяналізатарскую работу ў адміністрацыйных і гаспадарчых установах.

### Асноўныя мэты рацыяналізацыі дзяржаўнага апарату.

1. Рацыяналізацыя дзяржаўнага апарату павінна заключацца ў рашучым спрашчэньні і палепшаньні арганізацыі і тэхнікі кіраваньня і палепшаньні якасьці работ апарата. Работы ў гэтым напрамку павінны пра-

водзіцца з мэтаю: палепшыць абслугоўваньне апаратам рабоча-сялянскіх мас, зрабіць апарат панятным і даступным для гэтых мас, палегчыць уцягненьне працоўных у кірававаньне і іх кантроль над апаратам і разам з гэтым даць магчымасьць максымальнага зьмяншэньня і патаненьня апарата.

### Задачы па рацыяналізацыі на бліжэйшы пэрыад.

2. Выходзячы з гэтай мэтавай установкі, перад усімі ўстановамі адміністрацыйнага і дзяржаўнага апарата на бліжэйшы пэрыад ставяцца наступныя задачы па рацыяналізацыі свайго апарата:

а) усямернае спрашчэньне функцый і структуры апарата, у прыватнасьці распрацоўка сыстэмы адказных выканаўцаў з тым, каб дабіцца далейшага ўзмацненьня адказнасьці працаўнікоў, зьнішчэньня паралелізму і ўстанаўленьня дакладнага разьмежаваньня абавязкаў;

б) пастаноўка работы па асноўных апярацыях адміністрацыйных і гандлёва-прамысловых установ у галіне палепшаньня якасьці, арганізацыі і тэхнікі работ, нармаваньня працы, палепшаньня тэхнікі абсталяваньня і ўмоў работы з тым, каб дабіцца зьніжэньня выдаткаў, павялічэньня хуткасьці правядзеньня апярацый і палепшаньня абслугоўваньня ўстановаю працоўных;

в) пастаноўка і распрацоўка пытаньняў, што тычацца спрашчэньня ўзаемаадносін данае ўстановы з другімі, у прыватнасьці—зьнішчэньня ў іх непатрэбных абраднасьцяў і фармальнасьцяў, якія зьяўляюцца перажыткамі капіталістычна-бюракратычнага рэжыму;

г) працягваньне работ для стварэньня яснага, простага, кароткага і таннага падліку і такой-жа справаздачнасьці, якія-б дакладна адпавядалі задачам плянаваньня і кіраваньня, у прыватнасьці—узмацненьне машынізацыі канторска-рахунковай работы і ўвядзеньне капіравальнага мэтаду;

д) пастаноўка кантролю выкананьня заданьняў і палепшаньня мэтадаў тэхнікі плянаваньня;

е) палепшаньне якасьці складаньня ва ўстановах лістоў і дакумэнтаў з тым, каб дабіцца прастаты і яснасьці іх складаньня;

ж) спрашчэньне справаводзтва з тым, каб дабіцца прастаты і зразумеласьці яго вядзеньня, скарачэньня папяровага мора, колькасьці інстанцый і часу праходжаньня папер і замацаваньня стэнаграфіі ў рабоце ўстаноў.

### Органы і асобы, што вядуць рацыяналізатарскую работу ва ўстановах.

3. Сыстэматычная работа па рацыяналізацыі павінна быць абавязковай і сталай функцыяй кожнае ўстановы.

Практычныя рацыяналізатарскія мерапрыемствы будуць мець посьпех і сапраўдна пераробяць нашу тэхніку і арганізацыю гаспадаркі і кіраваньня толькі ў тым выпадку, калі яны будуць праводзіцца ў жыцьцё самімі кіраўнікамі ўстаноў пры актыўным удзеле шырокіх мас (Па рэзалюцыі XIV Партзьезду). Гэта першая ўмова пасьпешнасьці рацыяналізацыі апарату.

4. Другою абавязковаю ўмоваю пасьпешнасьці рацыяналізацыі зьяўляецца вылучэньне для гэтае работы спэцыяльных работнікаў, бо рацыяналізацыя зьяўляецца сталай функцыяй для кожнае ўстановы. Пры гэтым неабходна кіравацца пастановаю XIV Партзьезду, дзе паказана, што найбольш дасканалай арганізацыйнай формай рацыяналізацыі ва ўстановах зьяўляюцца спэцыяльныя рацыяналізатарскія органы бюро рацыяналізацыі (аргбюро).

Вопыт работы шэрагу гэтых спэцыяльных органаў, як гэта было высьветлена (люты 1928 г.) Калегіяй НК РСІ СССР, давёў поўную мэтазгоднасьць іх існаваньня і неабходнасьць далейшага разьвіцьця.

5. Арганізацыя бюро рацыяналізацыі апарата (аргбюро) ва ўстановах у кожным асобным выпадку праводзіцца пры ўдзеле адпаведнага органа РСІ.

Гэтыя органы вызначаюць, у якіх установах і ў якім складзе павінны быць арганізаваны бюро рацыяналізацыі апарата (аргбюро) і ў якіх установах, з прычыны невялікага аб'ёму іх работ, магчыма ўскласьці рацыяналізацыю на аднаго апэрацыйнага работніка з разгрузкай яго ад сваёй работы. Пры вызначэньні мэтазгоднасьці арганізацыі бюро рацыяналізацыі, органы РСІ прымаюць пад увагу думку прафсаюзных органаў.

6. Наяўнасьць бюро рацыяналізацыі апарата (аргбюро) або асобных працаўнікоў—рацыяналізатараў ва ўстановах не павінна зьяўляцца прычынаю для кіраўнікоў часьцей установы, каб зьняць з сябе абавязак стала спрашчаць і паляпшаць работу сваёй часьці і адказнасьць за ажыцьцяўленьне гэтай задачы. Яны павінны сыстэматычна працаваць у гэтым напрамку, увязваючы мерапрыемствы, што намячаюцца і распрацоўваюцца бюро рацыяналізацыі апарата (аргбюро) і дапамагаць апошняму ў яго працы. Далейшае ўдасканаленьне праведзеных бюро рацыяналізацыі апарата работ кіраўнікі часьцей установы праводзяць пасьля ўзгадненьня з бюро.

7. Да рацыяналізатарскіх работ іх выканаўцы павінны шырока прыцягваць служачых установы з тым, каб выкарыстаць іх ініцыятыву і вопыт і забясьпечыць нармальнае і станоўчае разгортваньне рацыяналізацыі. Для разьвіцьця рацыяналізатарскай самадзейнасьці працаўнікоў установы, кожная з іх павінна вызначыць асобны фонд прэміраваньня рабочых і служачых за іх прапановы рацыяналізатарскага характару, якія прыняты і праведзены ў жыцьцё.

**Функцыі, правы і арганізацыя бюро рацыяналізацыі апарата.**

8. Функцыямі бюро рацыяналізацыі апарата (аргбюро) зьяўляюцца:

а) сыстэматычнае вывучэньне і выкарыстаньне навуковых дасягненьняў і вопыту, што ёсьць у нас і за-межамі ў галіне рацыяналізацыі апарату, апэрацыйнай работы і тэхнікі яе;

б) прапрацоўка і правядзеньне праз кіраўнікоў частак установы рацыяналізатарскіх работ з мэтаю дазволу ўстановам і пералічаных вышэй (п. 2.) задач па рацыяналізацыі дзяржаўнага апарату;

в) аб'яднаньне рацыяналізатарскіх прапаноў і пачынаньняў апэрацыйных работнікаў, непасрэднае падтрыманьне і ўвязка іх прапаноў са ўсёю работай;

г) увязка рацыяналізатарскіх работ, што праводзяцца ў мясцовых органах, якія падпарадкаваны данай установе, і арганізацыя абмену між імі рацыяналізатарскім вопытам.

*Увага.* Гэта функцыя бюро рацыяналізацыі апарата выконваецца пасьля зацьверджаньня НК РСІ або яго мясцовымі органамі.

д) распрацоўка мерапрыемстваў па падвышэньню кваліфікацыі і інструктаж працаўнікоў устаноў на тых вучастках, на каторых праведзена рацыяналізацыя;

е) падлік рацыяналізатарскіх дасягненьняў, што атрыманы ў выніку як работы аргбюро і апэрацыйных работнікаў, так і масавай экономработы;

ж) папулярызацыя рацыяналізатарскіх работ сярод служачых і наведваючых установу рабочых, з мэтаю выклікаць іх рацыяналізатарскія прапановы;

з) апрацоўка праведзеных рацыяналізатарскіх работ для асьвятленьня іх у друку, з мэтаю папулярызацыі рацыяналізатарскіх работ сваеўстановы і з мэтаю абмену рацыяналізатарскім вопытам;

і) кантроль за становішчам праведзеных рацыяналізатарскіх работ і даклады адміністрацыі аб неабходных мерапрыемствах з мэтаю недапушчэньня ломкі або ліквідацыі рацыяналізатарскіх пастановак.

9. Бюро рацыяналізацыі апарата (аргбюро) даецца права:

а) азнаямленьня ў працэсе сваіх работ з матарыяламі частак установ без асобных на кожны выпадак дазволаў і ўзгадненьняў;

б) распрацоўкі, узгадненьня і склікаyньня нарад па пытаньнях рацыяналізацыі;

в) выступленьняў з дакладамі па пытаньнях рацыяналізацыі на сходах супрацоўнікаў, што склікаюцца грамадзкімі арганізацыямі;

г) самастойных зносін з іншымі бюро, з навуковымі рацыяналізатарскімі ўстановамі і органамі РСІ;

д) непасрэдных зносін з усімі часткамі ўстановы і яе пэрыфэрыйнымі органамі па пытаньнях свае кампэтэнцыі;

е) удзелу ў пасяджэньнях і нарадах, на якіх абмяркоўваюцца рацыяналізатарскія пытаньні.

10. Для пасьпяховага правядзеньня ў жыцьцё рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў і зьнішчэньня перашкод, якія могуць сустрэцца, бюро рацыяналізацыі апарата (аргбюро) павінна падпарадкоўвацца непасрэдна кіраўніку ўстановы або аднаму з членаў кіруючай калегіі. Такое падпарадкаваньне павінна вызначаць і структурнае палажэньне аргбюро: яно павінна быць самастойным, гэта значыць, не ўваходзіць ні ў адно з структурных дзяленьняў установы.

11. Бюро рацыяналізацыі апарата (аргбюро) камплектуецца вопытнымі рацыяналізатарамі, кваліфікаванымі апэрацыйнымі работнікамі, якія маюць рацыяналізатарскую ўстаноўку, працаўнікамі, што займаюцца рацыяналізатарскай работай па грамадзкай лініі, і актыўнымі нізавымі работнікамі.

Прафэсіянальныя органы павінны дапамагаць падбіраць работнікаў бюро рацыяналізацыі апарата, яны павінны вылучаць прафэсіянальных работнікаў і наогул прымаць удзел у падборы работнікаў па рацыяналізацыі.

12. Работа бюро па рацыяналізацыі апарата (аргбюро) павінна будавацца на дасканалым вывучэньні і аналізе існуючага парадку работ з прыняцьцем пад увагу сучасных дасягненьняў у галіне арганізацыі і тэхнікі кіраваньня, што маюцца ў нас і за межамі, а таксама ўлічваць тэмп і шляхі разьвіцьця агульна-гаспадарчага жыцьця і дзейнасьці данае ўстановы.

13. Тэхніка работ, захаваньне дасьледчага матарыялу і арганізацыя справкі па гэтым матарыяле павінны быць у бюро рацыяналізацыі апарата (аргбюро) пастаўлены дасканала. Бюро арганізацыяй сваіх работ павінна быць прыкладам для другіх частак установы.

14. Пры падліку вынікаў праведзеных рацыяналізатарскіх работ бюро павінны паказваць рэальна атрыманую грашовую эканомію на рабочай сіле і матарыялах. Яны не павінны пераводзіць на грошы іншыя атрыманыя палепшаньні, а паказваць іх пры дапамозе асобных паказчыкаў (колькасьць часу, тэрмінаў, інстанцый і г. д.).

### Адказнасьць за рацыяналізацыю.

15. Адміністрацыя ўстаноў павінна рашуча зьнішчаць усе перашкоды, якія сустракаюцца на шляху правядзеньня рацыяналізацыі,—супрацiўленьне апарата, шматлікасьць лішніх узгадненьняў і г. д. Кіраўнік установы наглядае за сваечасовым правядзеньнем у жыцьцё зацьверджаных рацыяналізатарскіх прапаноў, прымае захады да паскораньня іх правядзеньня і адказвае за сыстэматычнасьць вядзеньня рацыяналізацыі ў сваёй установе і за стварэньне ўмоў, што забясьпечваюць пасьпяховасьць рацыяналізацыі.

Бюро рацыяналізацыі апарата (аргбюро) трэба разглядаць як памочніка яму ў гэтай галіне, які адказвае за правільнае і сваечасовае выкананьне сваіх абавязкаў (гл. вышэй).

Апроч гэтага кіраўнік установы можа ўскладаць на бюро рацыяналізацыі апарата абавязнасьць наглядаць за выкананьнем рацыяналізатарскіх работ паасобнымі часткамі ўстановы.

16. Кіраўнікі паасобных частак установы адказваюць за сыстэматычнае палепшаньне аперацыйнай дзейнасьці і арганізацыі тэхнікі работ свае часткі, за сваечасовую пастаноўку пытаньняў аб неабходнасьці палепшаньня ў гэтых галінах, за дапамогу бюро ў яго рабоце, за сваечасовае правядзеньне ўжо прынятых рацыяналізатарскіх прапаноў у жыцьцё і за захаваньне праведзеных у жыцьцё рацыяналізатарскіх сыстэм.

### Плянаваньне рацыяналізатарскіх работ.

17. Рацыяналізатарская работа ва ўстановах па адміністрацыйнай лініі павінна праходзіць па пляну. Па-заплянавыя заданьні дазваляюцца для неадкладных бягучых патрэб установы. Для гэтых заданьняў пры складаньні пляну трэба прадугледжваць неабходны рэзэрв часу.

Пляны рацыяналізатарскіх работ абмяркоўваюцца на эканомкамісіях (п. 26), зацьвярджаюцца кіраўнікам установы і пасылаюцца ў адпаведныя органы РСІ для прагляду.

Органы РСІ у выпадку патрэбы даюць паказаньні аб зьмене пляну, аб уключэньні тых або іншых рацыяналізатарскіх работ, патрэбных для выкананьня задач, што стаяць перад установаю, па рацыяналізацыі апарату, аб прыняцьці пад увагу вопыту, які ўжо маецца і г. д.

### Выдаткі на рацыяналізатарскую работу.

18. Неабходныя выдаткі на правядзеньне рацыяналізатарскіх работ павінны быць асобна прадугледжаны па каштарысах установы. Гэтыя выдаткі лічацца апэрацыйнымі і ня могуць скарачацца парадкам адміністрацыйна-гаспадарчых асыгнаваньняў.

### Парадак правядзеньня рацыяналізатарскіх прапаноў.

19. Рацыяналізатарскія праекты і прапановы аргбюро пасьля іх распрацоўкі абмяркоўваюцца на эканомнарадах зацікаўленых частак установы і з кіраўнікамі гэтых частак. Бюро рацыяналізацыі сваечасова накіроўвае ў эканомкамісію матарыялы да надыходзячага абмеркаваньня на эканомнарадзе яго прапаноў.

20. Пры ўзгадненьні рацыяналізатарскіх праектаў і прапаноў з зацікаўленымі часткамі кіраўнікі гэтых частак павінны даць свае

заўвагі не пазьней, як праз 5—10 дзён з дня паступленьня да іх рацыяналізатарскага праекту або прапановы.

21. Бюро рацыяналізацыі прапрацоўвае заўвагі, што атрыманы па яго праекту на эканомнарадах (п. 27) і ад кіраўнікоў зацікаўленых частак, дае патрэбныя, па яго пагляду, папраўкі да свайго праекту і падае яго непасрэдна кіраўніку ўстановы на зацьверджаньне, далучаючы да яго тыя прапановы, якія ня прыняты, з адзнакай супроць іх, чаму яны ня прыняты.

*Увага.* Прапановы эканомнарады па праектах бюро рацыяналізацыі ідуць да адміністрацыі ад мясцкома агульнаўстаноўленым парадкам.

22. Кіраўнік установы не пазьней 10—15 дзён разглядае праект бюро рацыяналізацыі апарата і зацьвярджае яго або дае распараджэньне аб зьмене.

23. Зацьверджаныя рацыяналізатарскія прапановы праводзяцца ў жыцьцё кіраўнікамі зацікаўленых частак установы.

Бюро рацыяналізацыі апарата (аргбюро) кансультуе кіраўнікоў частак установы пры правядзеньні прапаноў у жыцьцё, карэктуе прапановы пры іх правядзеньні, распрацоўвае тыя пытаньні, якія чамусьці ня былі прадугледжаны пры першай распрацоўцы і наогул увесь час знаходзіцца ў курсе работы па правядзеньню рацыяналізатарскіх прапаноў і сваечасова ўжывае захады да зьнішчэньня перашкод, зьвяртаючыся ў патрэбных выпадках да кіраўніка ўстановы, у мясцком і ў парт'ячэйку.

**Абмен рацыяналізатарскім вопытам і дасягненьнямі.**

34. Абмен рацыяналізатарскім вопытам зьяўляецца аднэю з галоўнейшых умоў пасьпяховасьці разгортваньня рацыяналізатарскай работы. Толькі пры правільным выкарыстаньні нашага і замежнага вопыту магчыма ўнікнуць непатрэбных шуканьняў на тых вучастках работы, дзе ўжо маецца рацыяналізатарскі вопыт, і тым самым дасягнуць нармальнага тэмпу рацыяналізатарскіх работ.

Установы і бюро рацыяналізацыі (аргбюро) ня маюць права рабіць сакрэту з сваіх работ. Яны павінны даваць поўныя тлумачэньні аб праведзенай рацыяналізацыі працаўніком другіх устаноў, якія зьвяртаюцца да іх, і папулярызаваць свае рацыяналізатарскія мерапрыемствы для пашырэньня іх на ўстановы такога-ж тыпу.

Бюро для таго, каб ведаць пра ўсе сучасныя дасягненьні, падтрымлівае сувязь з органамі РСІ, з Інстытутам тэхнікі кіраваньня НК РСІ СССР, з іншымі навуковымі інстытутамі і спэцыяльнымі практыка-рацыяналізатарскімі ўстановамі (Аргстрой і інш.).

**Узаемаадносіны бюро рацыяналізацыі з органамі масавай эканомработы.**

25. Рацыяналізатарскай рабоце бюро рацыяналізацыі апарата (аргбюро) трэба надаць шырокі грамадзкі характар. Паміж бюро, эканомкамісіямі і эканомнарадамі мясцкомаў павінна быць шчыльная сувязь і поўнае супрацоўніцтва.

26. Для дасягненьня ўвязкі і ўзгодненасьці ў рабоце, пляны бюро рацыяналізацыі, яшчэ да зацьверджаньня, разглядаюцца на эканомкамісіі. Эканомкамісія, складаючы свой плян, улічвае зацьверджаныя пляны бюро.

27. Мясцком установы ўцягвае ў склад эканомкамісіі працаўнікоў бюро рацыяналізацыі.

28. Бюро рацыяналізацыі паведамляе эканомкамісію аб усіх работах па выкананьню плянавых і па-заплянавых заданьняў.

29. Эканомкамісія дапамагае бюро рацыяналізацыі ўцягваць у сваю работу супрацоўнікаў устаноў. Для гэтага ў пачатку паасобных буйных рацыяналізатарскіх работ бюро, экономкамісія павінна склікаць эканомнараду супрацоўнікаў і рабочых зацікаўленых частак установы. На гэтых нарадах бюро павінна дэтальна высьвятліць мэту надыходзячай работы, парадак яе выкананьня, спосаб удзелу супрацоўнікаў у работе і спосабы дапамогі гэтай рабоце.

30. Эканомкамісіі дапамагаюць бюро рацыяналізацыі (аргбюро) праводзіць зацьверджаныя рацыяналізатарскія мерапрыемствы ў жыцьцё, растлумачваючы супрацоўнікам іх значэньне і мэтазгоднасьць.

31. Бюро рацыяналізацыі знаёміць эканомкамісію і служачых установы з апошнімі дасягненьнямі па арганізацыі і тэхніцы кіраваньня, што маюцца ў нас і за межамі, арганізоўвае ўласныя даклады, запрашае дакладчыкаў, арганізоўвае экскурсіі, дае кансультацыі па асобных работах эканомкамісіі.

32. Бюро рацыяналізацыі павінна ў самы кароткі тэрмін даваць адказы на заметкі ў насьценнай газэце, якія тычацца яго рацыяналізатарскіх работ.

33. Бюро рацыяналізацыі робіць на пасяджэньнях эканомкамісіі і на эканомнарадах ня менш 2-х раз у год даклады аб зробленых работах і аб атрыманых выніках.

34. Бюро рацыяналізацыі ўдзельнічае ў работах эканомкамісіі для разьвіцьця рацыяналізатарскай самадзейнасьці супрацоўнікаў праз:

а) арганізацыю выпярэдніцтваў і конкурсаў на асобныя тэмы па палепшаньню апарата;

б) арганізацыю гурткоў і сэмінарыяў для падвышэньня кваліфікацыі служачых;

в) арганізацыю вечароў пытаньняў і адказаў і прапаноў і г. д.

35. Бюро рацыяналізацыі дапамагае эканомкамісіі:

а) арганізоўваць нарады актыву служачых установы з рабочым актывам прадпрыемстваў свае ўстановы;

б) арганізоўваць сумесныя пасяджэньні эканомкамісіі ўстановы з вытворчымі камісіямі сваіх прадпрыемстваў;

в) арганізоўваць на прадпрыемствах свае ўстановы сходы рабочых, на якіх праводзіць гутаркі на папулярныя тэмы рацыяналізацыі апарата;

г) уцягваць у рацыяналізатарскую работу рабочых з ліку вылучаных ва ўстанове.

**Задачы органаў РСІ па лініі рацыяналізацыі апарату.**

36. Органы РСІ накіроўваюць рацыяналізатарскую работу ўсіх устаноў (незалежна ад таго, ці маюць яны органы рацыяналізацыі ці не) на выкананьне агульных задач па рацыяналізацыі дзяржаўнага апарата, прымушаюць установы разьвіваць работу ў гэтым напрамку, дапамагаюць арганізоўваць і праводзіць рацыяналізатарскія работы, арганізоўваюць абмен вопытам і праводзяць праверку рацыяналізатарскіх работ. Для гэтых мэт органы РСІ:

а) праглядаюць рацыяналізатарскія пляны ўстаноў з мэтаю выявіць, ці правільна выбраны вучасткі для работы, ці адпавядаюць яны асноўным дырэктывам РСІ у галіне палепшаньня апарату, ці можна выканаць намечаныя работы ў даны плянавы пэрыад і ці прыняты пад увагу наш і замежны вопыт і даюць у патрэбных выпадках належныя паказаньні (п. 17);

б) наглядаюць за выкананьнем установамі вызначаных па пляну буйных рацыяналізатарскіх работ;

в) праводзяць праверку становішча арганізацыі і тэхнікі работ у розных установах і, інфармуючы ўстановы аб маючыхся рацыяналізатарскіх дасягненьнях, прапануюць дасягнуць таго-ж узроўню, на якім знаходзіцца арганізацыя і тэхніка работы ў такіх жа ўстановах;

г) дапамагаюць установам арганізаваць бюро рацыяналізацыі (аргбюро) і падбіраць рацыяналізатарскіх работнікаў і паляпшаць асабовы склад рацыяналізатараў, прапануючы ўстановам вылучаць на гэтую работу кваліфікаваных апэратыўных работнікаў з грамадзкай і рацыяналізатарскай устаноўкай;

д) распрацоўваюць мерапрыемствы па падрыхтоўцы новых кадраў рацыяналізатараў і па падвышэньні кваліфікацыі рацыяналізатараў тых, што маюцца;

е) арганізоўваюць сумесную рацыяналізатарскую работу адных устаноў з другімі па агульных пытаньнях рацыяналізацыі;

ж) дапамагаюць установам праводзіць рацыяналізатарскія мерапрыемствы, што сустракаюць супраціўленьне, якое ня можа быць зьнішчана мясцовымі сіламі, і асобна падтрымліваюць мерапрыемствы і вопыт, накіраваныя да сьмелага спрашчэньня апарату;

з) арганізоўваюць абмен рацыяналізатарскім вопытам непасрэдна між установамі і дапамагаюць у гэтай справе ўстановам, а таксама праводзяць сыстэматычны адбор рацыяналізатарскіх работ па асобных тэмах і групах аднолькавых устаноў, апрацоўваюць іх і пашыраюць на іншыя ўстановы;

і) праводзяць праверку рацыяналізатарскіх работ і ў выніку праверкі даюць ацэнку якасьці выкананых работ, падліку сучасных дасягненьняў пры іх правядзеньні і тэмпу выкананьня работ. Разам з гэтым яны высьвятляюць, якія рацыяналізатарскія прапановы бюро рацыяналізацыі або эканомкамісіі не праведзены ў жыцьцё і па якіх прычынах, і ўзаемаадносіны бюро з эканомкамісіяй; ацэньваюць удзел аргбюро ў работах па разьвіцьцю грамадзкасьці вакол рацыяналізацыі і па ўцягненьню ў яе рабочых мас і даюць прапановы аб палепшаньні пастаноўкі рацыяналізацыі;

к) распрацоўваюць і праводзяць мерапрыемствы па ўцягненьню грамадзкасьці ў рацыяналізацыю і, у першую чаргу, арганізоўваюць шырокае асьвятленьне ў друку пытаньняў рацыяналізацыі і праведзеных работ.

37. Апроч гэтага органы РСІ:

а) уцягваюць органы рацыяналізацыі ў сваю работу па рацыяналізацыі данае ўстановы і аднолькавых устаноў;

б) арганізоўваюць нарады рацыяналізатараў і

в) сумесна з прафсаюзамі абараняюць рацыяналізатараў ад магчымых нападак і перасьледваньняў з боку работнікаў устаноў, інтарэсы якіх закрануты праведзенымі рацыяналізатарскімі работамі.

---

## 11. Абежнік Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў і Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

**пра парадак, якім павінны рабіцца папраўкі ў кнігах органаў ЗАГС, а таксама запісы аб нараджэньні знойдзеных дзяцей.**

*Усім органам запісаў актаў грамадзянскага стану.*

Ад мясцовых органаў запісаў актаў грамадзянскага стану паступаюць часта запытаньні аб тым, якім парадкам трэба ўстанаўляць імя па бацьку і прозьвішча тым асобам, якія ў кнігах ЗАГС не запісаны, а таксама, як рэгіструюцца імя, прозьвішча і імя па бацьку знойдзенага дзіцяці.

Для выясьненьня пастаўленых пытаньняў і для правільнага і аднолькавага ўжываньня правілаў Кодэксу законаў аб шлюбе, сям'і і апецы (З. З. БССР 1927 г. № 7, арт. 26) Народныя Камісарыяты Ўнутраных Спраў і Юстыцыі БССР прапануюць органам запісаў актаў грамадзянскага стану пры вырашэньні пастаўленых пытаньняў кіравацца наступнымі паказаньнямі:

1. Усе паказаныя пытаньні, па сутнасьці сваёй, складаюць: а) адно агульнае пытаньне—пра парадак, у якім павінны рабіцца папраўкі ў кнігах ЗАГС, і другое—б) аб запісах аб нараджэньні знойдзеных дзяцей.

2. Першае пытаньне рэгулюецца арт. 44 Кодэксу законаў аб шлюбе, сям'і і апецы і арт. 4 дадатку першага да гэтага Кодэксу. Другое пытаньне прадугледжана арт. 13 таго-ж дадатку.

3. На падставе арт. 4 дадатку першага да Кодэксу законаў аб шлюбе, сям'і і апецы, усякага роду папраўкі запісаў у кнігах актаў грамадзянскага стану, калі супроць такіх паправак не заяўлена ніякіх спрэчак, робяцца ў адпаведнай кнізе з дазволу вышэйшага органу ЗАГС бяз удзелу суда. У такім парадку, напрыклад, задавольваюцца заявы абодвых бацькоў аб запісаньні іх дзецям імя, прозьвішча альбо імя па бацьку, калі гэта пры першапачатковай рэгістрацыі ў кнігах ЗАГС ня было запісана, паводле арт. 12 дадатку першага да Кодэксу законаў аб шлюбе, сям'і і апецы і арт. 39 гэтага-ж Кодэксу; імя, прозьвішча і імя па бацьку запісваюцца на падставе заяў абодвых бацькоў; пры гэтым, калі пры запісе аб нараджэньні ня было паказана бацькі дзіцяці, то орган ЗАГС можа потым зрабіць запіс са слоў бацькі, калі супроць гэтага ня пярэчыць маці. Такім чынам, у выпадках, калі аб запісе імя, прозьвішча ці імя па бацьку, пры адсутнасьці такіх запісаў у кнізе ЗАГС, просяць абодвы бацькі (а калі іх сын альбо дачка паўналетнія, то і гэтыя апошнія) і калі супроць такой просьбы няма спрэчак, то запіс павінен рабіцца ў паказаным вышэй парадку.

4. У тых-жа выпадках, калі заява аб папраўках ў кнігах ЗАГС аб бацькох дзіцяці альбо даты нараджэньня падаецца аднэй толькі стараной і пытаньне не зьяўляецца бясспрэчным, то, паводле арт. 44 Кодэксу законаў аб шлюбе, сям'і і апецы, справа павінна быць вырашана судом, на падставе рашэньня якога толькі і могуць быць зроблены адпаведныя папраўкі ў запісах ЗАГС.

5. Запіс аб нараджэньні знойдзенага дзіцяці паводле арт. 13 дадатку першага да Кодэксу законаў аб шлюбе, сям'і і апецы, робіцца на падставе заявы асоб, якія знайшлі дзіця, альбо таго органа, у які дзіця было накіравана для выхаваньня; пры гэтым да заявы аб рэгістрацыі далучаецца складзены міліцыяй пратакол з паказаньнем часу, месца і акалічнасьцяў, пры якіх дзіця знойдзена.

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных Спраў БССР *Я. Кроль.*

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР *П. Валасевіч.*

20 лютага 1929 г.
№ 22.

## 12. Пастанова Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў БССР

**пра зьмены ў інструкцыі НКУС БССР за 12/X—1928 г. „Пра парадак выдачы пасьведчаньняў асобы“.**

З прычыны некаторых супярэчнасьцяй у паасобных артыкулах інструкцыі НКУС БССР „Пра парадак выдачы пасьведчаньняў асобы“ (Бюл. СНК БССР № 14 (57)—1928 г., стар. 6-13), запісаць арт. 17 інструкцыі ў такой рэдакцыі:

„17. Пасьведчаньні асобы выдаюцца на падставе аднаго з дакумэнтаў, пералічаных ў арт. 2, пры ўмове, калі яны зьмяшчаюць у сабе зьвесткі аб прозьвішчы, імю і імю па бацьку, узросьце і, у належных выпадках, аб адносінах да вайсковай службы. Органы, якія выдаюць пасьведчаньні асобы, ня маюць права патрабаваць падачы яшчэ якіх небудзь іншых дакумэнтаў, апроч тых, якія зьмяшчаюць у сабе ўсе паказаныя вышэй зьвесткі“.

Увагі да гэтага артыкулу пакінуць бяз зьмен.

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных Спраў БССР *Я. Кроль.*

21 лютага 1929 г.

---

## 13. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў і Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР

**пра парадак атрыманьня, захаваньня і выдаткаваньня спэцыяльных сродкаў адміністрацыйных аддзелаў акруговых выканаўчых камітэтаў па прамысловай міліцыі, а таксама рахункаводзтва і справаздачнасьці па гэтых сродках.**

*(Выдана на падставе пастановы ЦВК і СНК БССР за 29/XII-1928 г.— З. З. БССР 1928 г. № 38, арт. 372 „Пра зьмену арт. 5 пастановы ЦВК і СНК БССР Аб прамысловай міліцыі за 21/VIII-1926 г.— З. З. БССР 1926 г. № 36, арт. 130).*

1. Сумы, якія ўносяцца дзяржаўнымі, грамадзкімі і прыватнымі ўстановамі і прадпрыемствамі, а таксама прыватнымі асобамі за нясеньне прамысловай міліцыяй узброенае аховы належачай гэтым установам, прадпрыемствам і асобам маемасьці, адносяцца да спэцыяльных сродкаў па прамысловай міліцыі адміністрацыйных аддзелаў акруговых выканаўчых камітэтаў.

2. Акруговыя адміністрацыйныя аддзелы складаюць асобныя каштарысы па даходах і па выдатках спэцыяльных сродкаў па прамысловай міліцыі і падаюць іх на зацьверджаньне акруговага выканаўчага камітэту.

3. Тэрміны для складаньня, падачы і дзеяньня каштарысаў спэцыяльных сродкаў устанаўляюцца тыя самыя, што і для каштарысаў па мясцовым бюджэце.

4. Падлік спэцыяльных сродкаў акруговых адміністрацыйных аддзелаў па прамысловай міліцыі вядзецца па наступным падзеле даходаў і выдаткаў.

Па даходах:

а) прыбыткі ад уносаў дзяржаўных, грамадзкіх і прыватных установаў і прадпрыемстваў, а таксама і прыватных асоб за нясеньне прамысловай міліцыяй узброенае аховы маемасьці, якая належыць гэтым установам, прадпрыемствам і асобам,

б) выпадковыя паступленьні, калі яны не прадугледжаны прыбытковай наменклатурай ні дзяржаўнага ні мясцовага бюджэту.

Па выдатках:

а) аплата працы (заработная плата),
б) социяльнае страхаваньне,
в) на ўтрыманьне мясцкому,
г) на абмундыраваньне і ўзброеньне (снаражэньне),
д) на ўзброеньне,
е) на канцылярскія выдаткі.

5. Усе паступленьні па спэцыяльных сродках уносяцца (п. 1-шы гэтай інструкцыі) на спэцыяльныя працэнтныя бягучыя рахункі ў адпаведныя касавыя ўстановы, якія выконваюць мясцовыя бюджэты.

6. Спэцыяльныя сродкі выдаюцца з памянёных касавых устаноў па чэках акруговых адміністрацыйных аддзелаў у межах наяўнасьці гэтых сродкаў і ў адпаведнасьці з зацьверджанымі каштарысамі.

7. Акруговым адміністрацыйным аддзелам даецца права рабіць у межах агульнае сумы выдатку, прадугледжанага каштарысам, перасоўваньне сум з аднаго артыкулу ў другі, пры чым усякае перасоўваньне сум з аднаго артыкулу ў другі павінна быць зацьверджана акруговым выканаўчым камітэтам.

8. Рахункаводзтва па спэцыяльных сродках вядзецца ў прызначаных для гэтага кнігах, паводле існуючых законаў.

9. Па сканчэньні бюджэтнага году, акруговыя адміністрацыйныя аддзелы падаюць у НКФ БССР справаздачную рахунковую ведамасьць аб даходах і выдатках спэцыяльных сродкаў у тэрміны і паводле правілаў, якія існуюць для падачы гадавых справаздач па мясцовым бюджэце.

10. Адказнасьць за правільнае вядзеньне рахункаводзтва і справаздачнасьці па спэцыяльных сродках ускладаецца на акруговыя адміністрацыйныя аддзелы.

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных Спраў БССР *Я. Кроль.*
Нам. Народнага Камісара Фінансаў БССР *Л. Бунін.*

15 сакавіка 1929 г.

---

## 14. Абежнік Народнага Камісарыяту Фінансаў і Народнага Камісарыяту Земляробства БССР

### пра парадак налічэньня і спагнаньня пені па нядоімках платы за земляўпарадкаваньне.

*Усім сельскім саветам, раённым выканаўчым камітэтам, акруговым фінансавым аддзелам і акруговым зямельным аддзелам.*

Паводле абежніка Народнага Камісарыяту Фінансаў Саюзу ССР за 31 сьнежня 1928 г. № 226 (Изв. НКФ СССР № 16 за 17 студзеня 1929 г.) нядоімкі платы за земляўпарадкаваньне павінны спаганяцца з налічэньнем пені *ў разьмеры аднэй пятай процанта ад сумы нядоімкі за кожны дзень спазьненьня, г. зн. аднолькава як і па сельскагаспадарчым падатку.*

На падставе паказанага, у дадатак да інструкцыі Народных Камісарыятаў Земляробства і Фінансаў БССР за 15 сьнежня 1928 г. (Бюл. СНК БССР за 1928 г. № 15(58) пра парадак спагнаньня і залічэньня

ў даход скарбу сум, якія паступаюць за земляўпарадчыя і пазямельнарэгістрацыйныя работы, уводзіцца наступны парадак налічэньня, спагнаньня і падліку пені з платы за земляўпарадкаваньне:

1. Пеня налічаецца на ўсе недаплаты сум за земляўпарадкаваньне, якія фінансавымі часткамі выканаўчых камітэтаў будуць пералічаны ў нядоімку, паводле §§ 28 і 41 інструкцыі, а таксама і на тыя недаплаты, якія пералічаны ў нядоімку акруговымі зямельнымі аддзеламі ў парадку выкананьня абежніка НКЗ і НКФ БССР за 19 сьнежня 1928 г. № 4033, п. п. 4 і 5 (Бюл. СНК БССР за 1928 г. № 15 (58).

2. Дзень, з якога налічваецца пеня, устанаўляецца раённымі выканаўчымі камітэтамі:

а) для выпадкаў, калі недаплаты пералічаюцца ў нядоімку фінансавымі часьцямі раённых выканаўчых камітэтаў—паводле §§ 28 і 41 інструкцыі,—*з наступнага дня пасьля зыходу тэрміну назначанага для выплаты недаплат па справе*;

б) для выпадкаў, калі фінансавая часьць раённага выканаўчага камітэту рэалізуе сумы старых нядоімак, перададзеных акруговымі зямельнымі аддзеламі ў парадку паказанага абежніка—*з наступнага дня пасьля зыходу тэрміну асобна прызначанага фінансавай часьцю для ўнясеньня нядоімкі.* Прычым, назначаючы тэрмін унясеньня гэтай нядоімкі, трэба абавязкова папярэджваць насельніцтва, што нявыплачаная ў назначаны дзень нядоімка будзе спаганяцца з налічэньнем пені.

*Увага.* Пеня за час да атрыманьня гэтага абежніка на мясцох не налічваецца.

3. Фінансавыя часткі раённых выканаўчых камітэтаў налічваюць пеню на ўсю суму недаплаты за земляўпарадкаваньне па данай справе, якая (недаплата), паводле §§ 28 і 41 інструкцыі, пералічана ў нядоімку і запісана па графе 7-й разрахунковых картак (ф. № 10). Налічэньне робіцца на поўныя рублі нядоімкі, пры чым сума ў 50 і больш капеек прымаецца за поўны рубель, а сума менш 50 кап. з рахунку выключаецца. Размер пені менш аднэй капейкі акругляецца да поўнай капейкі. Запісаныя такім парадкам сумы налічанай пені на вызначаныя справаздачныя тэрміны (§ 56 інстр.) зьяўляюцца для фінансавых частак кантрольнымі лічбамі пені, якія належаць да рэалізацыі ў парадку арт. арт. 4, 5 і 6 гэтага абежніку.

4. Фінансавая частка раённага выканаўчага камітэту, даручаючы сельскаму савету бясспрэчнае спагнаньне нядоімак платы за земляўпарадкаваньне, паводле § 45 інструкцыі, і пасылаючы сьпіс нядоімшчыкаў па форме № 12, запаўняе графы 1, 2 і 3, *а ў 4 графе (налічана пені за 1 дзень) ставіць суму пені, якая прыпадае на кожнага нядоімшчыка (двор) за адзін дзень пратэрмінаваньня ў залежнасьці ад падворных сум нядоімак (гр. 3), а таксама адзначае зьверху гэтай (4) графы, з якога дня павінна налічвацца пеня, напр. „пеня з 1-га сакавіка 1929 г.* Графа 5-я фінансавай часткай зусім не запаўняецца.

5. Сельскі савет, атрымаўшы сьпіс па форме № 12, прапануе нядоімшчыкам унесьці нядоімку добраахвотна і ў выпадку згоды на гэта мэханічна падлічае пеню на нядоімку (падворна) за пратэрмінаваныя дні *шляхам памнажэньня колькасьці пратэрмінаваных дзён на суму пені за адзін дзень, паказаную фінансавай часткай у гр. 4 формы № 12 і суму налічанай пені запісвае па графе 5-й сьпісу („Разам пені“).* Пасьля ўнясеньня насельніцтвам нядоімкі і пені, сельскі савет робіць у тым-жа сьпісу ў графе 6 адзнаку аб паступленьні нядоімкі і пені з кожнага двара (агульнай сумай), а таксама паказвае ў тэй-жа

графе час выплаты нядоімкі. Спагнаныя сумы нядоімкі сельскі савет павінен пры сьпісе (ф. № 12) здаць праз давераную асобу ў фінансавую частку раённага выканаўчага камітэту (§§ 38 і 45 інстр.).

6. Пры атрыманьні ад сельскага савету сьпісу па ф. № 12 фінансавая частка раённага выканаўчага камітэту правярае правільнасьць сум налічанай і спагнанай пені з паасобных двароў паселішча, устанаўляе агульную суму пені, спагнаную з данага паселішча і адзначае яе паступленьне ў графе 8-д разрахунковай карткі (ф. № 10) па данаму паселішчу (§ 52 інструкцыі).

7. У выпадку адмаўленьня нядоімшчыкаў ад добравольнай выплаты нядоімкі, сельскі савет робіць у гр. 6 (ф. № 12) адзнаку: „ад добравольнай выплаты адмовіўся“ і зараз-жа складае сьпіс і ацэнку маёмасьці нядоімшчыкаў, якія і дасылае ў раённы выканаўчы камітэт для зацьверджаньня, адначасова зварочваючы і другі экзэмпляр сьпісу (ф. № 12) з паказанай адзнакай аб адмаўленьні выплаціць нядоімку.

*Увага*. Спіс, арышт і продаж маёмасьці нядоімшчыкаў па плаце за земляўпарадкаваньне робіцца паводле правіл, устаноўленых для спагнаньня нядоімак па сельска-гаспадарчаму падатку.

У сувязі з устанаўленьнем пені і неабходнасьцю падліку яе, уводзяцца наступныя дадаткі да наступных §§ інструкцыі:

у §§ 28 і 41 у канцы пасьля слоў: „у бясспрэчным парадку“ дадаць: „з налічэньнем пені“:

у § 55 у тэксьце пасьля пункту „з“ дадаць наступныя новыя пункты:

і) у графе $2^1$ сумы пені, якія паступілі ў касу за мінулы месяц, паводле даных графы „8-д“ разрахунковых картак;

к) у графе $5^1$ сумы сьпісанай безнадзейнай пені за мінулы месяц паводле даных графы „9-в“ разрахунковых картак;

л) у графе $7^1$ сумы пені, якія засталіся не спагнанымі па першы дзень новага месяца. Бярецца як рэшта паміж сумамі графы 7 (налічана пені) і агульнымі сумамі з пачатку апэрацый паводле даных граф „8-д“ і „9 в“ разрахунковых картак“.

Пункт „в“ § 55 чытаць: у графе 3 разам паводле граф 1, 2 і $2^1$ данай карткі.

Пункт „з“ чытаць: „у графе 8—разам паводле граф 6, 7 і $7^1$ данай карткі“.

Ва ўвазе 2 у § 55 пасьля слоў: „у нядоімку недаплат платы“ дабавіць словы: „і налічэньні пені“.

Разам з гэтым паведамляецца, што зварот пераплат, аб якіх гаворыцца ў § 51 інструкцыі, раённыя выканаўчыя камітэты робяць толькі па бягучых справах. Што тычыцца пераплат за работы мінулых гадоў, на якіх у фінансавай частцы няма адкрытай разрахунковай карткі (ф. № 10 да § 52 інструкцыі), то разгляд гэтых пытаньняў павінен рабіцца акруговымі фінансавымі аддзеламі на падставе абежніка НКФ БССР за 8 кастрычніка 1928 г. № 3237-б.

Нам. Народнага Камісара Фінансаў БССР *Л. Бунін*.

Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР *К. Масюкоў*.

27 лютага 1929 г.
№ 32303—1 (НКФ).

---

## 15. Абежнік Народнага Камісарыяту Фінансаў і Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

### пра парадак вылічэньня падатку з маемасьці, якая пераходзіць у спадчыну альбо ў дар.

*Усім фінансавым аддзелам акруговых выканаўчых камітэтаў, усім судовым установам і натарыяльным канторам.*

Паводле інструкцыі НКФ СССР па падлічэньню і спагнаньню падатку са спадчыны і дару, выданай 8-га лютага 1926 г., агульны нагляд за спагнаньнем паказанага падатку, а таксама падлік і спагнаньне і наогул практычнае правядзеньне ў жыцьцё Палажэньня аб падатку са спадчыны і дару ўскладаецца на фінансавыя органы.

Між тым па зьвестках, якія маюцца ў НКФ, ёсьць выпадкі, калі народныя суды, разглядаючы справы аб прызнаньні за насьледнікамі права на спадчыну, у сваіх рашэньнях устанаўляюць ацэнку будынкаў, пераходзячых у якасьці спадчыны, падлічаюць падатак са спадчыны і спаганяюць апошні на агульных падставах разам з другімі судовымі зборамі, а фінансаваму аддзелу дасылаюць копію свае пастановы да ведама.

Апроч таго, быў выпадак, калі адзін натарыус па акту дару падлічыў падатак, спагнаў яго і ўнёс у прыбытак скарбу.

Такім чынам, нарсуды і натарыяльныя канторы ў паказаных вышэй выпадках прысвоілі сабе функцыі фінансавых органаў.

Каб пяпярэдзіць на бягучы час падобныя выпадкі, Народны Камісарыят Фінансаў і Народны Камісарыят Юстыцыі БССР прапануюць:

1. Народныя суды ня маюць права самі падлічаць падатку з маемасьці, пераходзячай у якасьці спадчыны, а паводле пастановы СНК БССР за 1-га ліпеня 1926 г. (З. З. БССР 1926 г. № 26) павінны паведамляць фінансавыя аддзелы пра ўсе выпадкі, выкрытыя імі, пераходаў маемасьці па спадчыне, калі з справы ня будзе відаць, што падатак ужо выплачан, і толькі ў тых выпадках, калі насьледнікі абскардзяць падлік фінансавага аддзелу аб налічэньні падатку са спадчыны і дару ў народны суд, апошні разглядае ўсю справу аб правільнасьці абкладаньня падаткам і можа ці зацьвердзіць ці скасаваць разьлік, складзены фінансавым аддзелам.

2. Натарыяльныя канторы ня маюць права падлічаць падатку з дару, а абавязаны ў 2-хтыдневы тэрмін ад дня ўчыненьня акту пра дар, пасылаць копію гэтага акту адпаведнаму фінансаваму аддзелу.

3. Народныя суды і натарыяльныя канторы, якія падлічылі і спагналі падатак са спадчыны бяз удзелу фінансавых аддзелаў акруговых выканаўчых камітэтаў, павінны паведаміць аб усіх такіх выпадках фінансавы аддзел і далучыць усе матарыялы па ацэнцы спадчынных маемасьцяў і, калі фінансавы аддзел ня будзе згодзен з ацэнкай маемасьці, прынятай судом, то павінен прасіць Пракуратуру, або вышэйшую судовую ўстанову аб скасаваньні рашэньня народнага суда.

Нам. Народнага Камісара Фінансаў БССР *Л. Бунін.*

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР *П. Валасевіч.*

13 лютага 1929 г.

## 16. Правілы сплаты за страты ад сьмерці або калецтва коняй, што даюцца насельніцтвам для тушэньня пажараў у сельскіх мясцовасьцях БССР.

1. Каб забясьпечыць хуткую падачу коняй для сваечасовага выезду сельскага пажарнага абозу на пажары, устанаўляецца сплата за страты ад падзяжу або часовае страты працаздольнасьці пры рабоце на пажары коняй, што даюцца насельніцтвам пад пажарныя абозы ў сельскіх мясцовасьцях БССР.

2. Сплаце пры падзяжу і калецтве падлягаюць коні, якія паданы пад сельскія пажарныя абозы, незалежна ад таго, ці знаходзяцца гэтыя абозы ў пажарных дружынах ці не знаходзяцца.

3. Сплата ўстанаўляецца ў разьмеры ня звыш устаноўленай для данай мясцовасьці гранічнае страховай нормы па добравольнаму страхаваньню коняй.

4. Сплата за простой з прычыны калецтва каня пры рабоце на пажары ўстанаўляецца ў разьмеры ня звыш 1-го рубля ў суткі і ня звыш, як за 30 дзён. Паказаная сплата выдаецца толькі па пасьведчаньню вэтпэрсаналу, які лячыў каня.

5. Аб падзяжу каня пры тушэньні пажару зараз-жа і ва ўсякім выпадку не пазьней 3-х дзён складаецца акт старшынёю сельскага савету ў прысутнасьці 2-х староньніх сьведак, якімі адначасова ўстанаўляецца сапраўдная цана каня. Там, дзе працавала пажарная арганізацыя, у складаньні акту абавязкова ўдзельнічае прадстаўнік гэтае арганізацыі. У акце адзначаецца цана каня, усе акалічнасьці і прычыны падзяжу яго. Акт неадкладна перасылаецца мясцоваму страхавому агэнту.

6. Па атрыманьні акту аб падзяжу каня на пажары агэнт, у выпадках, якія ня выклікаюць сумненьня, сплачвае грошы зараз-жа. Пры няўпэўненасьці—агэнт неадкладна выяжджае на месца і робіць расьсьледваньне.

7. У выпадках атрыманьня канём калецтва пры тушэньні пажару, якое пагражае стратай працаздольнасьці, акт складаецца ў парадку, паказаным у § 8 гэтых правіл. Страхавы агэнт па атрыманьні такога акту неадкладна паведамляе вэтэрынарнага доктара (або фэльчара); апошні аглядае каня і свае заключэньне пасылае агэнту. Калі па заключэньню вэтпэрсаналу конь падлягае зьнішчэньню з прычыны атрыманага калецтва, дык гэта праводзіцца парадкам, паказаным у § 5 гэтых правіл.

8. У выпадку здарыўшагася пры тушэньні пажару калецтва каня, якое выклікае часовую страту працаздольнасьці, уласьнік каня заяўляе аб гэтым старшыні сельскага савету, які ў прысутнасьці сьведак аглядае каня і складае акт з апісаньнем характару атрыманага канем калецтва і неадкладна накіроўвае гэты акт вэтпэрсаналу.

*Увага.* Калі ў данай мясцовасьці ёсьць пажарная дружына, дык у складаньні акту абавязкова ўдзельнічае яе прадстаўнік.

9. Акт з заключэньнем вэтпэрсанала накіроўваецца страхавому агэнту, які пасьля выздаравеньня каня выдае ўласьніку ці яго даверанаму сплату за прастой паводле разрахунку, паказанага ў § 4 гэтых правіл.

10. У выпадку падзяжу каня пасьля прастою з прычыны пагоршаньня атрыманага калецтва, калі сплата за прастой выдана, уласьніку сплачваецца поўная цана каня за вылікам атрыманае сумы за прастой.

11. Сплата за простой каня з прычыны калецтва пры тушэньні пажару і аплата разьездаў вэтпэрсанала для агляду і лячэньня каня, таксама разьніца паміж страхавою сумаю (калі паўшы конь быў застрахаваны па якому-небудзь з відаў страхаваньня коняй) і сумаю, сплачанаю ўласьніку каня, паўшага пры тушэньні пажару, або з прычыны калецтва пасьля прастою,—робіцца за рахунак сродкаў, атрыманых ад прыбыткаў Дзяржстраху на меры змаганьня з выпадкамі, прадугледжанымі страхаваньнем ад агню.

12. Гэтыя правілы распаўсюджваюцца і на ўласных коняй сельскіх дабравольных пажарных арганізацый.

Нам. Народнага Камісара Фінансаў БССР *Л. Бунін*

Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР *А. Адамовіч.*

Старшыня Праўленьня Дзяржаўнага Страхаваньня БССР *З. Чарнушэвіч.*

---

## 17. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі і Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР

**пра вызваленьне ад гэрбавага збору дакумэнтаў па судовых спагнаньнях заработнай платы, сродкаў на ўтрыманьне і сплату за калецтвы.**

*Усім судовым установам.*

На падставе § 58 сьпісу выняткаў па дзяржаўным гэрбавым зборы (З. З. СССР 1927 г. № 55, арт. 553) да групы дакумэнтаў, якія не падлягаюць аплаце гэрбавым зборам, адносяцца: „дакумэнты па судовых спагнаньнях заработнай платы, сродкаў на ўтрыманьне і сплату за калецтвы і дакумэнты па ісках, што не перавышаюць 25 рублёў“.

Гэтае правіла па сваей сутнасьці складаецца з дзьвёх частак: а) аб вызваленьні ад гэрбавага збору дакумэнтаў па ісках, цаною менш 25 руб. і б) па спагнаньнях заработнай платы, алімэнтаў і сплаты за калецтвы.

Першая з гэтых частак не выклікае ніякіх непаразуменьняў. Другая-ж патрабуе тлумачэньня, бо ў практыцы ўзьнікла пытаньне аб тым, ці тычыцца гэтае правіла толькі тых дакумэнтаў паказаных катэгорый, якія падаюцца ў суд істцамі, альбо і дакумэнтаў, што падаюцца абедзьвюма старонамі.

У мэтах папярэджаньня памылковага ўжываньня паказанага вышэй правіла § 58 дадатку 2-га да статуту пра дзяржаўны гэрбавы збор, Народныя Камісарыяты Юстыцыі і Фінансаў БССР прапануюць усім судом пры разглядзе спраў, паказаных у гэтым параграфе, карыстацца наступным:

Не падлягаюць аплаце гэрбавым зборам:

*1) усе дакумэнты, што падаюцца ў суд абедзьвюма старанамі па ісках, што не перавышаюць цаною 25 рублёў;*

*2) дакумэнты па ісках аб заработнай плаце, аб алімэнтах і аб сплаце за калецтвы, калі гэтыя дакумэнты падаюцца істцамі.*

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР і Пракурора Рэспублікі *С. Гохман.*

Народны Камісар Фінансаў БССР *В. Мікуліч.*

9 лютага 1929 г.
№ 10.

## 18. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

### пра парадак спагнаньня няправільна выдадзеных і няправільна скарыстаных пазычак па сельска-гаспадарчым крэдыце.

*Усім акруговым і народным судом, копія—акруговым пракурорам.*

У працы сельска-гаспадарчых крэдытных таварыстваў наглядаюцца выпадкі, калі кіраўніцтвы гэтых таварыстваў, парушаючы існуючыя правілы і дырэктывы аб крэдытаваньні насельніцтва, раздаюць крэдыты кулацкім гаспадаркам.

Таксама заўважваюцца выпадкі, калі выдадзеныя крэдыты скарыстоўваюцца пазычальнікамі не па прызначэньні.

Маючы на ўвазе, што раздача крэдытаў кулацкім гаспадаркам зьяўляецца скрыўленьнем клясавай лініі ў вёсцы, а скарыстаньне іх не па прызначэньні шкадліва адбіваецца на крэдытнай дысцыпліне, Праўленьне Белсельбанку прапанавала акрсельбанкам і крэдытным таварыствам правесьці шырокую праверку выдачы і скарыстаньня крэдытаў і пры выяўленьні паказаных вышэй выпадкаў, патрабаваць ад пазычальнікаў датэрміновага звароту атрыманых пазычак.

З прычыны паказанага, Народны Камісарыят Юстыцыі растлумачвае наступнае:

1. Паводле п. 10 пастановы IV сэсіі ЦВК БССР VI скліканьня за 7 лютага 1925 г. „Аб сельска-гаспадарчым крэдыце“ (З. З. БССР 1925 г. № 8, арт. 68) сельска гаспадарчы крэдыт, які зьяўляецца стымулам разьвіцьця сельскае гаспадаркі, павінен давацца толькі бядняцкім і серадняцкім гаспадаркам, у першую чаргу—аб'яднаным у калякты вы.

Таму, у тых выпадках, калі сельска-гаспадарчым крэдытным таварыствам з прычыны ашуканства з боку пазычальніка, альбо злаўмыснай згоды з ім прадстаўніка таварыства, альбо нядбайнасьці гэтага прадстаўніка, была парушана паказаная вышэй дырэктыва і пазыка была выдадзена кулацкай гаспадарцы, якая, як паказана вышэй, пазбаўлена па закону права на атрыманьне пазычкі, сельска-гаспадарчае крэдытнае таварыства мае права, на падставе арт. арт. 32 і 151 Грам. Код., прасіць суд аб прызнаньні зьдзелкі па пазычцы несапраўднай і аб звароце яму выдадзенай пазычкі да наступленьня тэрміну яе выплаты.

Атрыманыя сельска-гаспадарчым крэдытным таварыствам наперад процанты па такіх пазыках, за час ад дня спагнаньня няправільна выдадзенай пазычкі да дню прызначанага абавязацельствам тэрміну выплаты яе, павінны, на падставе 2 ч. 151 арт. Грам. Код., як беспадстаўнае абагачэньне, спаганяцца з таварыства ў карысьць дзяржавы.

2. Паводле п. „а“ арт. 13 і п. „а“ арт. 2 „Палажэньня аб капэрацыйным крэдыту“ (З. З. СССР 1927 г. № 4, арт. 44) крэдытна-капэрацыйныя арганізацыі, у тым ліку і сельска-гаспадарчыя крэдытныя таварыствы, маюць права выдаваць пазычку сваім членам толькі на мэты, якія накіраваны на абслугоўваньне вытворчых патрэб пазычальнікаў.

Таму, паводле арт. 17 таго-ж Палажэньня, крэдытна-капэрацыйнае таварыства, у выпадку выдаткаваньня пазычальнікам пазыкі не па прызначэньні, альбо калі паказанае таварыства палічыць вядзеньне пазычальнікам сваёй гаспадаркі безгаспадарчым, мае права прасіць суд аб спагнаньні доўгу з пазычальніка да наступленьня тэрміну выплаты пазычкі.

У такіх выпадках, таксама як і ў выпадках, паказаных у 1-м пункце гэтага абежніка, атрыманыя таварыствам наперад проценты па пазычцы, за час ад дня спагнаньня няправільна альбо безгаспадарча скарыстанай пазычкі да дня прызначанага абавязацельствам тэрміну яе выплаты, павінны быць спагнаны з таварыства ў карысьць дзяржавы, як беспадстаўнае абагачэньне, на падставе арт. 444 Грам. Код.

3. Акалічнасьці, якія зьяўляюцца падставамі для датэрміновага спагнаньня пазычкі ва ўсіх паказаных вышэй выпадках павінны быць выяўлены на судзе ў парадку арт. арт. 118—122 ГПК.

4. У адпаведнасьці з п. 3 гэтага абежніку паказаныя вышэй іскі крэдытных арганізацый павінны разглядацца ў судох, паводле п. „г“ арт. 244 ГПК, не ў парадку судовага загаду, а ў агульным парадку.

5. Ва ўсіх выпадках датэрміновага спагнаньня пазычак з кулацкіх гаспадарак на падставах, паказаных у п. п. 1 і 2 гэтага абежніку, суды павінны дапушчаць, у парадку п. „б“ арт. 187 ГПК, безадкладнае выкананьне рашэньня.

6. Пры датэрміновым спагнаньні пазычкі, выданай праз ашуканства з боку пазычальніка або праз злаумысную згоду з ім прадстаўніка таварыства ці нядбайных адносін апошняга да сваіх абавязкаў пры выдачы пазыкі, судовыя ўстановы павінны дасылаць копіі вынесеных імі рашэньняў органам пракурорскага нагляду для належнага расьсьледваньня і прыцягненьня вінаватых да адказнасьці.

Народны Камісар Юстыцыі БССР *А. Сташэўскі.*

12 лютага 1929 г.
№ 11.

---

## 19. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

### пра абарону праў парабкоў і беднаты.

*Акруговым пракурорам і акруговым судом.*

Разьвіцьцё працоўных адносін найму на вёсцы, у сувязі з актыўнасьцю заможнай часткі сялянства, выклікае рашучую неабходнасьць узмацненьня кантролю з боку органаў улады для забясьпячэньня інтарэсаў парабкаў і беднаты.

Скарыстаньне наёмнай працы на вёсцы дакладна рэгулюецца выданымі ўрадам Саюзу ССР часовымі правіламі аб умовах ужываньня дапаможнае наёмнае працы ў сялянскіх гаспадарках (З. З. СССР 1925 г. № 26, арт. 183) з наступнымі зьменамі і пастановай СНК БССР за 12 жніўня 1925 г. пра зацьверджаньне інструкцыі да вышэйпаказаных часовых правілаў (З. З. БССР 1925 г., № 42, арт. 351 і 1928 г., № 13, арт. 114).

Аднак, як сьведчыць практыка, ужываньне паказаных правілаў зьвязана з вялікімі перашкодамі, якія месьцяцца, галоўным чынам, у недастатковай папулярызацыі іх і ў адсутнасьці належна арганізаванай дзейнасьці органаў аховы працы на вёсцы.

З другога боку, інтарэсы парабкоў часта церпяць з прычыны марудлага вырашэньня працоўных спраў у судох і недастатковай юрыдычнай дапамогі парабком пры разглядзе іх спраў.

У мэтах сапраўднага забесьпячэньня інтарэсаў парабкоў і зьнішчэньня магчымасьці эксплёатацыі іх з боку заможнай часткі сялян-

ства, Народны Камісарыят Юстыцыі ставіць перад мясцовымі працаўнікамі пракуратуры і суду задачу найбольшага ўзмацненьня працы па прававаму выхаваньню парабкаў і вясковай беднаты, падачы ім юрыдычнай дапамогі і непасрэднай абароны іх матарыяльных інтарэсаў.

У паасобку, Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе:

1) ужыць неабходныя захады да больш хуткага разгляду працоўных спраў парабкоў у судох і больш шырокай падачы ім юрыдычнай дапамогі;

2) уключыць у плян работы па прававой прапагандзе абавязковае правядзеньне на сельскіх сходах дакладаў па пытаньнях заканадаўства аб найме і ахове працы на вёсцы;

3) пры выездах на вёску абавязкова абсьледваць працу сельскіх саветаў па рэгістрацыі працоўных дагавораў і міравых камісій, правяраць зарэгістраваныя дагаворы з пункту погляду адпаведнасьці іх закону, а таксама растлумачваць сельскім саветам іх правы і абавязкі адносна рэгістрацыі працоўных дагавароў, у паасобку, паказваць на недапушчальнасьць мэханічнай рэгістрацыі, без падрабязнага азнаямленьня з зьместам дагавору і паведамленьня парабка аб яго правох паводле закону;

4) узмацніць работу (сумесна з працінспэкцыяй і прафсаюзным органам) па выяўленьню кабальных і ўтоеных зьдзелак і незарэгістраваных дагавароў, асабліва ў адносінах малалетніх і жанчын;

5) паставіць перад адпаведнымі органамі пытаньне аб неабходнасьці ўзмацненьня ўвагі мясцовых органаў улады на пытаньнях аховы працы парабкоў;

6) перад інспэкцыяй працы паставіць пытаньне аб неабходнасьці абсьледваньня сялянскіх гаспадарак, якія ўжываюць наёмную працу,

7) ва ўсіх выпадках парушэньня законаў, якія рэгулююць ужываньне наёмнай працы на вёсцы, або Кодэксу законаў аб працы прыцягваць да адказнасьці як наймальнікаў, так і службовых асоб, якія нядбайна адносяцца да абавязку абароны інтарэсаў парабкоў і сялянскай беднаты.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР
і Ст. Пам. Пракурора Рэспублікі *С. Гохман.*

Старшыня Найвышэйшага Суда БССР *П. Валасевіч.*

12 лютага 1929 г.
№ 12.

---

## 20. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі і Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў БССР

### пра няўжываньне абвешчанай да 10-годзьдзя існаваньня БССР амністыі па справах аб спагнаньні пені за няплату падаткаў.

*Акруговым пракурорам і акруговым выканаўчым камітэтам.*

Артыкул 4 амністыі, абвешчнай да 10-годзьдзя існаваньня Беларускай ССР, пад накладзенымі ў адміністрацыйным парадку штрафамі разумее толькі тыя, якія спаганяюцца за дзеяньні, прадугледжаныя ў арт. 13 закону пра накладаньне адміністрацыйных пакараньняў (З. З. БССР 1928 г. № 17, арт. 160).

Пеня, якая налічваецца на нядоімкі па падатках (у тым ліку і па падатку сельска-гаспадарчаму), устаноўлена саюзным заканадаўствам,

дзеля чаго і звальненьне ад уплаты яе можа быць зроблена толькі ў парадку саюзнага законадаўства.

На падставе паказанага, Народныя Камісарыяты Юстыцыі і Ўнутраных Спраў БССР растлумачваюць, што артыкул 4 паказанай амністыі ня можа ўжывацца па справах аб спагнаньні пені за няплату падаткаў.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР
і Ст. Пам. Пракурора Рэспублікі *С. Гохман.*

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных Спраў БССР *Я. Кроль.*

19 лютага 1929 г.
№ 15.

---

## 21. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

### пра меры змаганьня з нібыкаператывамі.

*Акруговым пракурорам і акруговым судом.*

Для рашучага змаганьня з праніканьнем у каперацыйныя арганізацыі капіталістычных (кулацкіх) элементаў, якія ствараюць з іх нібыкаператывы і такім чынам скарыстоўваюць каперацыйную форму ў сваіх клясавых мэтах, Народны Камісарыят Юстыцыі, у адпаведнасьці з пастановай Савету Народных Камісараў Саюзу ССР за 28 сьнежня 1928 г. „Пра меры змаганьня з нібыкаператывамі“ (З. З. СССР 1929 г., № 3, арт. 28), прапануе:

1. Пракурорскаму нагляду сачыць за дзейнасьцю органаў, якія рэгіструюць каперацыйныя арганізацыі, зварочваючы асаблівую ўвагу на асоб, якія зьяўляюцца закладчыкамі каператываў, і на тыя мэты, для ажыцьцяўленьня якіх гэтыя каператывы арганізуюцца.

2. Па згодзе з органамі РСІ, пракурорскаму нагляду зрабіць абсьледваньне тых нізавых каператываў, адносна якіх ёсьць паказаньні на неадпаведнасьць іх дзейнасьці мэтам савецкай капярацыі і сувязь з кулацкімі і прыватна-прадпрыемчымі элементамі, асабліва ў галіне сельска-гаспадарчай, прамысловай і інваліднай капярацыі.

3. Вядзеньне крымінальных спраў аб нібыкапэратывах рабіць у найхутчэйшым часе, пры чым уважліва сачыць за тым, каб мера сацыяльнай абароны адпавядала сацыяльнай небясьпечнасьці дзеяньня, кіруючыся пры гэтым наступнымі палажэньнямі:

а) калі работа нібыкаператыву мела сваім вынікам падрыў якой-небудзь галіны дзяржаўнай альбо каперацыйнай гаспадаркі, то дзеяньне асоб, якія стаяць на чале нібыкаператыву, кваліфікаваць паводле арт. 69 КК;

б) у іншых выпадках дзеяньні кіраўнікоў нібыкапэратываў кваліфікаваць паводле арт. 92 КК;

в) калі арганізацыя альбо дзейнасьць нібыкаператыву зьявілася вынікам нядбайнасьці, бязьдзейнасьці альбо перавышэньня ўлады з боку асоб, да абавязку якіх належыць рэгістрацыя і назіраньне за дзейнасьцю каперацыйных арганізацый, то супроць усіх гэтых асоб належыць пачынаць крымінальныя справы паводле арт. арт. 196 і 197 КК.

4. У часе правядзеньня нарад па змаганьню з злачынствамі зварочваць асаблівую ўвагу на распрацоўку практычных мерапрыемстваў па барацьбе з нібыкаператывамі на падставе дакладаў аб сапраўдным стане работы па абсьледваньню каператываў і выніках гэтага абсьледваньня.

5. Зрабіць захады да ўцягненьня ў працу па змаганьню з нібыкаператывамі рабоча-сялянскіх мас шляхам удзелу іх у судовых працэсах у якасьці грамадзкіх абвінаваўцаў, высьвятленьня раб-селькорамі вынікаў работы ў гэтай галіне ў друку, сувязі з адпаведнымі сэкцыямі саветаў і г. д.

6. Аб мерах, якія будуць прыняты для выкананьня паказанага вышэй, паведаміць у чарговых справаздачах.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР і
Ст. пам. Пракурора Рэспублікі *С. Гохман.*

19 сакавіка 1929 г.
№ 20.

---

*Узгоднена з Н. К. Працы і*
*Н. К. Унутраных Спраў БССР.*

## 22. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Юстыцыі і Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР

**пра парадак спагнаньня па выканальных лістох з дзяржаўных і грамадзкіх устаноў і прадпрыемстваў і аб звароце спагнаньня на заработную плату рабочых і служачых.**

### I. Агульныя палажэньні.

1. З веданьня судовых выканаўцаў, міліцыі і сельскіх саветаў адыходзяць наступныя спагнаньні:

а) спагнаньні па выканальных лістох з дзяржаўных, каперацыйных і грамадзкіх устаноў і прадпрыемстваў;

б) спагнаньні з заработнае платы рабочых і служачых дзяржаўных, каперацыйных і грамадзкіх устаноў і прадпрыемстваў.

2. Выкананьне па паказаных у арт. 1 гэтай інструкцыі спагнаньнях ускладаецца на адміністрацыю адпаведных дзяржаўных, або грамадзкіх устаноў і прадпрыемстваў, у асобе распарадчыкаў крэдытамі паказаных устаноў і прадпрыемстваў.

3. Пры выкананьні рашэньняў па справах, паказаных у арт. 1 гэтай інструкцыі, асобы, якія выконваюць спагнаньне, кіруюцца пастановамі XXXI, XXXIII і XXXIV разьдзелаў Грамадзянскага Працэсуальнага Кодэксу БССР (арт. арт. 300—315, 328—336) у рэдакцыі пастановы ЦВК і СНК БССР за 2 лютага 1929 г. (З. З. БССР 1929 г. № 4, п. 20), а таксама правіламі гэтай інструкцыі.

4. Прадстаўнікі адміністрацыі, на якіх ускладзена выкананьне рашэньняў, нясуць матарыяльную і дысцыплінарную адказнасьць за поўнае і безадмоўнае выкананьне ўсіх дзеяньняў паводле выканальнага лісту па выплаце ісцам належачых ім сум.

5. На падставе арт. 315 Грамадзянскага Працэсуальнага Кодэксу БССР скаргі на дзеяньні прадстаўнікоў адміністрацыі дзяржаўных і грамадзкіх устаноў па выкананьні рашэньняў, а таксама на маруднасьць выкананьня падаюцца народнаму судзьдзі, у вучастку якога праводзіцца выкананьне.

Народны судзьдзя можа па ўласнай ініцыятыве даваць прадстаўнікам адміністрацыі, выконваючым рашэньні, кіраўнічыя паказаньні, якія для асоб, выконваючых рашэньні, абавязковы.

6. Народны судзьдзя мае права ў неабходных выпадках прымаць усе прымусовыя меры, прадугледжаныя арт. арт. 331 і 332 ГПК.

7. Па патрабаваньню зацікаўленай стараны выконваючы рашэньне прадстаўнік адміністрацыі павінен даваць спраўкі аб руху спагнаньня.

## II. Парадак выкананьня.

8. Адміністрацыя ўстановы або прадпрыемства прыступае да выканальных дзеяньняў на падставе выдадзенага судом выканальнага ліста або судовага загаду, якія або накіроўваюцца непасрэдна судом, або падаюцца спагнальнікам пры вуснай або пісьмовай заяве яго (арт. 301 ГПК БССР).

Меры па ахове маемасьці, якая засталася пасьля памершых, прымаюцца на падставе прапановы народнага судзьдзі, а спагнаньне штрафаў, якія накладзены ў парадку вядзеньня грамадзянскага працэсу,— на падставе выпіскі з пастановы суда.

9. Заява спагнальніка павінна быць аплачана простым гэрбавым зборам другога разраду, г. зн. у адзін рубель (арт. 1 Статуту аб гэрбавым зборы і § 1 сьпісу папер, што падлягаюць гэрбаваму збору). Заявы спагнальнікаў заработнай платы, сродкаў на ўтрыманьне і сплаты за калецтва, а таксама паісках, не перавышаючых 25 рублёў,—ад гэрбавага збору звальняюцца.

10. У выпадку падачы спагнальнікам вуснай заявы, апошняя запісваецца прадстаўніком адміністрацыі і падпісваецца спагнальнікам. Вусныя заявы гэрбавым зборам не аплачваюцца.

11. Па сканчэньні выкананьня прадстаўнік адміністрацыі, якому даручана выкананьне, зварочвае выканальны ліст па прыналежнасьці судовай установе з надпісам на лісьце аб выкананьні (арт. 307 ГПК БССР).

12. Спагнальніку грошы выдаюцца паводле выканальнага ліста безадкладна, пад расьпіску, а калі ён адсутнічае, то па яго просьбе, безадкладна высылаюцца за яго кошт па пошце па паказанаму спагнальнікам адрасу.

13. Пры спагнаньні з заработнай платы рабочых і служачых дзяржаўных і грамадзкіх усганоў і прадпрыемстваў, калі сум, на якія адміністрацыя ўстановы мае права зьвярнуць спагнаньне, не хапае для задаволеньня ўсіх зьвернутых на даўжніка спагнаньняў, задаволеньне спагнальнікаў праводзіцца ў парадку, паказаным у арт. арт. 311 і 312 ГПК БССР.

14. Пры выкананьні па выканальных лістох, выданых па просьбах аб забясьпечаньні іску, падлягаюць захоўваньню правілы, устаноўленыя ў арт. 313 ГПК БССР.

15. У выпадку сьмерці даўжніка ў часе выкананьня рашэньня, выкананьне прыпыняецца да назначэньня апякуна ці папячыцеля альбо аж да яўкі насьледнікаў.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР *С. Гохман.*

Нам. Народнага Камісара Фінансаў БССР *Л. Бунін.*

23 сакавіка 1929 г.
№ 21.

---

## 23. Пастанова Народнага Камісарыяту Асьветы БССР

### пра тэрміны пачатку і заканчэньня навучальнага году ў навучальных установах БССР.

Народны Камісарыят Асьветы БССР пастанаўляе:

Устанавіць наперад да асобнага распараджэньня, наступныя тэрміны пачатку і заканчэньня навучальнага году ў навучальных установах БССР.

| | Канец навуч. году | Пачатак навуч. году |
|---|---|---|
| **I. Па ўстановах сацыяльнага выхаваньня.** | | |
| 1) На агульна-адукацыйных курсах, у спэцыяльных клясах, у Цэнтр. Дасьл. Школе, у вопытна-практ. школах пры пэдаг. тэхнікумах і пры Бел. Дзярж. Унівэрсытэце, у 4-х гадовых працоўных школах у гарадох і мястэчках і ва ўсіх 7-гадовых працоўных школах, у школах 2-й ступені і 9-годках . . . . . . . . . . . . . . . . . . . | 15-VI | 15-VIII |
| 2) У чатырох-гадовых вясковых школах . . . | 1-VI | 1-IX |
| 3) У школах сялянскай моладзі . . . . . . . | 1-VI | 15-VIII |
| **II. Па вышэйшых і прафэсіянальна-тэхнічных навучальных установах.** | | |
| 1) У Бел. Дзярж. Унівэрсытэце і Вэт. Ін-це . . | 15-VI | 15-VIII |
| *Увага.* Залікавая сэсія адбываецца з 15 мая па 15 чэрвеня. | | |
| 2) У Беларускай Дзяржаўнай Акадэміі Сельскае Гаспадаркі імя Кастрычнікавае Рэвалюцыі . . . . | 1-VI | 1-IX |
| *Увага.* Залікавая сэсія адбываецца з 1 мая па 1-е чэрвеня. | | |
| 3) У палітэхнікумах, на рабочых факультэтах, у тэхнікумах (апроч сельска гаспадарчых), пэдагагічных курсах, прафэсіянальна-тэхнічных школах (апроч сельска-гаспадарчых), навучальна-практыкавальных майстэрнях, школах фаб.-зав. вучнёўства і навучальных установах на самааплаце . . . . . | 7-VI | 15-VIII |
| 4) У сельска-гаспадарчых навучальных установах (тэхнікумах і школах) . . . . . . . . . . | 1-VI | 1-IX |
| *Увага.* У сельска-гасп. навучальных установах вучні ў пэрыяд часу з 1-га чэрвеня па 1-е верасьня атрымліваюць месячны адпачынак па чарзе, якая вызначаецца пэдагагічным саветам. | | |
| **III. Па палітыка-асьветных установах.** | | |
| 1) У Камуністычным Унівэрсытэце імя Леніна | 15-VI | 15-VIII |
| 2) У савецкіх партыйных школах I і II-й ступ., у школах павышанага тыпу і ў Палітасьветным Тэхнікуме . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . | 15-VI | 1-IX |
| 3) У вячэрніх школах сялянскае моладзі . . . | 1-IV | 15-X |

4) У вячэрніх школах рабочае моладзі . . . . 15-VI 1-IX

5) У школах для малапісьменных і лікпунктах 15-IV 15-IX

IV. Дзіцячыя дамы, сады і ўстановы для дэфэктыўных дзяцей (Інстытуты: Сацыяльнага перавыхаваньня, Глуханямых і Разумова-адсталых дзяцей, Школа сьляпых, прыемнікі-разьмеркавальнікі), як зачыненыя ўстановы, працуюць без перапынку.

V. Пастановы Народнага Камісарыяту Асьветы БССР № 85 за 9 мая 1927 г. і № 91 за 30 красавіка 1928 г.—скасаваць.

Нам. Народнага Камісара Асьветы БССР *С. Слонім.*

Сакратар Народнага Камісарыяту Асьветы БССР *Ю. Савіч.*

23 лютага 1929 г.
№ 50.

---

## 24. Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю БССР

### пра ўчыненьне ўмоў па куплі-продажу і па пастаўцы тавараў імпортнага пахаджэньня ў біржавым парадку.

На падставе п. п. „в“ і „и“ арт. 3 Палажэньня аб Народным Камісарыяце Гандлю БССР (З. З. БССР 1928 г. № 34, арт. 319) і пастановы Народнага Камісарыяту Замежнага і Ўнутранага Гандлю СССР за 21 студзеня 1929 г. „Аб учыненьні дзяржаўнымі прадпрыемствамі і каперацыйнымі арганізацыямі ўмоў па куплі-продажу (у тым ліку і пастаўцы) тавараў імпортнага пахаджэньня ў біржавым парадку“, апублікаванае ў дадатку да часопісі „Советская Торговля“ № 6 за 30/I—1929 г., Народны Камісарыят Гандлю БССР пастанаўляе:

1. Абавязаць усе дзяржаўныя і каперацыйныя прадпрыемствы заключаныя імі з прыватнымі прадпрыемствамі гандлёвыя ўмовы на куплі-продажу, у тым ліку і па пастаўцы тавараў імпортнага пахаджэньня, учыняць у біржавым парадку.

Вінаватыя ў парушэньні гэтай пастановы падлягаюць адказнасьці паводле арт. 202 Крымінальнага Кодэксу БССР.

Гэтая пастанова ўваходзіць у сілу з моманту апублікаваньня.

Нам. Народнага Камісара Гандлю БССР *М. Абрамсон.*

Сакратар Народнага Камісарыяту Гандлю БССР *Дзьвіндзенка.*

20 лютага 1929 г.
№ 16.

---

## 25. Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю БССР

### пра стандарты на печаны жытні і пшанічны хлеб.

Для зьмены і дапаўненьня пастановы Н. К. Гандлю БССР за 14 чэрвеня 1928 г. за № 46 „Аб зьмяненьні стандартаў на печаны жытні і пшанічны хлеб“ (апублік. у „Бел. Кам. Бюл.“ за 16/VI 1928 г. № 46 і за 20/VI 1928 г. № 47) і на падставе 1 п. літ. літ. „в“ і „е“ арт. 3 Палажэньня аб Н. К. Гандлю БССР (З. З. БССР 1928 г. № 34, арт. 319) Нар. Кам. Гандлю БССР пастанаўляе:

1. Устанавіць для дзяржаўных, каперацыйных і прыватных хлебапякарных прадпрыемстваў ва ўсіх мясцовасьцях БССР выключна

наступныя гатункі печанага пшанічнага і жытняга хлеба ў залежнасьці ад гатунку мукі, якія нормы лічыць мінімальнымі:

| Гатунак хлеба | Гатунак мукі і іншых матарыялаў (рэцэптура) | Выраб | Якасныя адзнакі: Вільготнасьць (%) | Якасныя адзнакі: Порыстасьць | Якасныя адзнакі: Кісласьць (у град.) | Зольнасьць |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Пшанічны | | | | | |
| 1-шы | Мукааднагатунк. пам. выхад. 80% | Каравай (вагавы) фр. булкі | | | | |
| | Цукру ня менш 1,8% | Батоны, пляцёнкі і абаранкі | 42 | 74 | 3 | 1,10 |
| 2-гі | Мука выхад. 80%—75% і абойн. выхад. 96%—25% | Каравай, франц. булкі, батоны | | | | |
| | Цукру ня менш 1,8% | Пляцёнкі і абаран. | 45 | 68 | 3 | 1,30 |
| 3-ці | Мука аднагат. | Каравай, франц. булкі, батоны | | | | |
| | Памол вых. 85% | | | | | |
| | Цукру ня менш 1,8% | Пляцёнкі і абар. | 45 | 68 | 4 | 1,40 |
| | Жытні | | | | | |
| | а) Разавы: мука абойн. выхад. 96% | Карав. ваг. | 49 | 45 | 12 | 1,92 |
| | б) Разавы: мука абойн. жытн. вых. 96—50% і мука пшанічн. 2 гат. (выхад. 41—90%)—50% | „ „ | 49 | 45 | 12 | 2,33 |

*Увага*. I. Зьмяншэньне прымешкі пшан. мукі II гат. да жытн. хлеба з абойнай жытн. мукі вых. 96 проц. дапушчаецца выключна ў тых выпадках, калі гэтай пшан. мукі будзе не хапаць.

II. Выпечка хлеба з абойнай жытн. мукі вых. 96 проц. дапушчаецца без прымешкі пшанічнай 2 гатунку выключна ў выпадках поўнае адсутнасьці апошняй.

III. Прымешка мукі пшанічнай 1 гатунку да вышэйпералічаных гатункаў жытн. і пшан. хлеба ні ў якім выпадку не дапушчаецца.

IV. Зольнасьць пшан. хлеба 1 гат. з пшан. мукі вых. 80 проц. з маркай „1 Я“ павялічваецца на 0,15 проц., а па другому гатунку пшан. хлеба (з прымешкай пшанічнай абойнай) на 0,10 проц.

2. Вага хлеба пшанічнага і жытняга павінна быць наступная:

Каравай (вагавы ад 1-го да 4 кгр., франц. булкі па 200 і 300 гр., батоны—па 300, 500 і 1000 гр., пляцёнкі—300, 500 і 1000 гр., абаранкі 1-га гат. 50 гр., а 2-га і 3-га—па 50 гр.

Жытняга (каравай)—ад 1-го да 4 кгр.

*Увага*. I. Штучны хлеб павінен мець паказаную вагу праз 4 гадзіны пасьля выняцьця з печы. Пасьля гэтага тэрміну дапушчаецца паніжэньне вагі ў разьмеры ня больш 2,5 проц.

II. Пшанічны і жытні хлеб павінен выпушчацца ў продаж прастыўшым.

3. Пшанічны і жытні хлеб павінен выпякацца і выпушчацца на рынак зусім дабраякасным як па выгляду, так і па яго ўнутранай улась-

цівасьці і смаку і павінен адпавядаць паказаным у п. 1-м якасным адзнакам.

4. Паказаныя вышэй стандарты печанага пшанічнага і жытняга хлеба ўвесьці ва ўсіх дзярж., каперацыйных і прыватных хлебапякарных прадпрыемствах з 10 сакавіка 1929 г.

5. Акруговым інспэктаром гандлю ў 10-цідзённы тэрмін з моманту апублікаваньня гэтае пастановы ўдасканаліць і ўвесьці ў жыцьцё цьвёрдыя продажныя цэны на вышэйпаказаныя гатункі жытняга і пшанічнага хлеба па асобных вырабах на дзяржаўных і каперацыйных хлебапякарных прадпрыемствах, выходзячы з прынцыпаў і гранічнамаксымальных цэн, паказаных у пастановах Н. К. Гандлю БССР за 14/VI—1928 г. № 46 і за 18 жніўня 1928 г. № 50 і пратаколу Нарады пры Н. К. Гандлю БССР за 6/IX—1928 г. № 6/х і адначасова ўстанавіць цьвёрдыя цэны на пшанічны хлеб 3-га гатунку, што выпякаецца з пшанічнай мукі выхадам 85 проц., выходзячы з цьвёрда-максымальнай цаны 25 кап. за кілёграм.

*Увага.* Цана на жытні хлеб з мешаніны жытняй абойнай і пшанічнай 2-га гатунку мукі не ў залежнасьці ад колькасьці апошняй устанаўляецца аднолькавая як на жытні хлеб з абойнай жытняй мукі без прымешкі.

6. Нагляд за выкананьнем гэтай пастановы як у адносінах адпавяданьня якасьці хлеба, так і захаваньня дзярж. і капер. хлебапякарнымі прадпрыемствамі ўстаноўленых цэн, ускладаецца на акруговых інспэктароў гандлю і Дзярж. Хлебн. Інспэкцыю па належнасьці.

7. Вінаватыя ў парушэньні гэтай пастановы службовыя асобы падлягаюць адказнасьці паводле арт. 202 Кр. Код. БССР, а прыватныя асобы—у адміністрацыйным парадку штрафу да 100 р. у першы раз, а пры паўторных парушэньнях—паводле арт. 152 Кр. Код. БССР.

Нам. Народнага Камісара Гандлю БССР *М. Абрамсон.*

Сакратар Н. К. Гандлю БССР *Паплаўскі.*

1 сакавіка 1929 г.
№ 17.

---

## 26. Загад Вышэйшага Савету Народнае Гаспадаркі БССР

### пра абвяшчэньне палажэньняў пра бюро рацыяналізацыі.

Разам з гэтым абвяшчаецца да ведама і кіраваньня:

1) Палажэньне пра Цэнтральнае Бюро Рацыяналізацыі пры ВСНГ БССР,

2) Тыпавае палажэньне пра Бюро Рацыяналізацыі трэстаў ВСНГ БССР і

3) Тыпавае палажэньне пра Бюро Рацыяналізацыі ў прадпрыемствах трэстаў ВСНГ БССР.

Дадатак: памянёнае.

Старшыня Вышэйшага Савету Народнае Гаспадаркі БССР *С. Карп.*

Сакратар ВСНГ БССР *А. Лушычын.*

2 сакавіка 1929 г.
№ 96.

*Дадатак 1-ы.*

## Палажэньне пра Цэнтральнае Бюро Рацыяналізацыі пры ВСНГ БССР (ЦБР).

### I. Мэты і задачы ЦБР.

1. Цэнтральнае Бюро Рацыяналізацыі пры ВСНГ БССР мае на мэце распрацоўку і дапамогу ў мерапрыемствах па рацыяналізацыі прамысловасьці ВСНГ БССР у галінах вытворча-тэхнічнай, эканамічнай і адміністрацыйнай для палепшаньня ўмоў працы і падняцьця прамысловасьці БССР на вышэйшую тэхнічна-арганізацыйную ступень у адпаведнасьці да агульных дырэктыў ВСНГ СССР і Ураду БССР.

2. У адпаведнасьці да паказанай мэты ЦБР мае наступныя задачы:

а) устанаўленьне асноўных шляхоў правядзеньня работ па рацыяналізацыі прамысловасьці ВСНГ БССР і распрацоўку адпаведных мерапрыемстваў па рацыяналізацыі ў галінах вытворча-тэхнічнай, сыравіннай, камэрцыйна-гаспадарчай і адміністрацыйнай з падлікам магчымасьці шырокага абмену дасягненьнямі прадпрыемстваў і трэстаў ВСНГ БССР, а таксама і запазычаньня чужаземных досьледаў і вопыту інш. установ і прадпрыемстваў СССР;

б) сыстэматычнае вывучэньне работы прамысловасьці ВСНГ БССР, выяўленьне слабых яе старон і вывучэньне асноўных страт у гаспадарцы трэстаў і прадпрыемстваў ВСНГ БССР для распрацоўкі канкрэтных захадаў да адхіленьня гэтых страт;

в) удзел у распрацоўцы асноўных мерапрыемстваў па рацыяналізацыі прамысловасьці ВСНГ БССР, паколькі яны адбіваюцца ў апэрацыйных і пэрспэктыўных плянах прамысловасьці;

г) выяўленьне задач рацыяналізацыі, якія падлягаюць вырашэньню адпаведных па спэцыяльнасьці навукова-тэхнічных арганізацый, а таксама сыстэматычнае азнаямленьне з іх работай для плянамернага яе скарыстаньня ў прамысловасьці БССР;

д) падлік дасягненьняў навукова-дасьледчай працы Інстытуту прамысловасьці, Цэнтральнай Лябараторыі ВСНГ БССР, лябараторый пры трэстах і прадпрыемствах ВСНГ БССР у напрамку рацыяналізацыі вытворчых працэсаў, патаненьня перапрацоўкі, арганізацыі новых вытворчасьцяй і г. д., а таксама ўсялякая дапамога разгортваньню навукова-дасьледчай працы ў практыцы трэстаў і прадпрыемстваў ВСНГ БССР;

е) агульнае кіраваньне, інструктаваньне і кантроль дзейнасьці БР пры трэстах ВСНГ БССР і ўдзел у складаньні плянаў іх працы;

ж) агульны нагляд за становішчам вынаходніцкай працы ў прамысловасьці БССР, дапамога БР па вынаходніцтву пры ВСНГ БССР па рэалізацыі найбольш важных вынаходак у прамысловасьці БССР;

з) распрацоўка мерапрыемстваў па скарыстаньні чужаземных тэхнічных досьледаў і тэхнічнага вопыту органаў СССР праз адпаведныя органы ВСНГ БССР;

і) падлік вынікаў працы па рацыяналізацыі ў прамысловасьці ВСНГ БССР і арганізацыя абмену вопытам паміж трэстамі і прадпрыемствамі для скарыстаньня вытворча-тэхнічных дасягненьняў паасобных трэстаў і прадпрыемстваў;

к) дача заключэньняў па пытаньнях рацыяналізацыі па запытаньнях органаў прадпрыемстваў і трэстаў ВСНГ БССР;

л) рацыяналізацыя структуры апарату і работы ВСНГ БССР, а таксама ўзаемаадносін паміж часткамі ВСНГ БССР і паміж органамі Цэн-

тральнага апарату ВСНГ БССР, трэстамі і прадпрыемствамі ў галіне плянаваньня, рэгуляваньня і кіраваньня прамысловасьцю БССР;

м) рацыяналізацыя мэтадаў і парадку выкананьня адміністрацыйных і іншых функцый ВСНГ БССР.

### Парадак работы ЦБР.

3. ЦБР пры ВСНГ БССР кіруецца агульнымі дырэктывамі і паказаньнямі Прэзыдыуму ВСНГ БССР і дырэктывамі ЦБР пры ВСНГ СССР, данымі аб становішчы прамысловасьці БССР (вынікі абсьледваньняў, аналіз сабекошту прадукцыі, пастановы канфэрэнцый і зьездаў па рацыяналізацыі і інш.), дасягненьнямі прамысловасьці чужаземнай і СССР і складае плян працы, прадугледжваючы ў ім распрацоўку шырокіх мерапрыемстваў па рацыяналізацыі прамысловасьці ВСНГ БССР і агульнае кіраваньне працай рацыяналізацыі ў трэстах і прадпрыемствах.

4. ЦБР узгадняе складзены плян работы з адпаведнымі аперацыйнымі групамі ВСНГ БССР і падае для зацьверджаньня Прэзыдыуму ВСНГ БССР.

5. ЦБР сыстэматызуе матарыялы трэстаў і на падставе гэтых матарыялаў і вынікаў свае працы і зьвестак ад БР трэстаў ВСНГ БССР складае і падае Прэзыдыуму ВСНГ БССР зборныя справаздачы аб ходзе работы па рацыяналізацыі прамысловасьці ВСНГ БССР, а таксама асьвятляе ў органах друку найбольш важныя пытаньні работы па рацыяналізацыі прамысловасьці ВСНГ БССР.

6. ЦБР павінна пэрыадычна склікаць нарады працаўнікоў па рацыяналізацыі ў трэстах і прадпрыемствах для ўзаемнага абмену вопытам, разгляду справаздач па справе рацыяналізацыі і для ўстанаўленьня асноўных мэтадаў работы па рацыяналізацыі.

7. Распрацоўка мерапрыемстваў і пытаньняў, якія не ўваходзяць у плян працы ЦБР, робіцца толькі ў выключных выпадках, паводле асобнага распараджэньня Прэзыдыуму ВСНГ БССР.

8. ЦБР павінна сумесна з эканамічнымі органамі пры МК ВСНГ БССР абмяркоўваць прапановы і праекты гэтых органаў і паасобных працаўнікоў у галіне рацыяналізацыі, структуры і форм работы цэнтральнага апарату ВСНГ БССР і падлічваць усе гэтыя прапановы пры ўжываньні захадаў па рацыяналізацыі.

9. ЦБР праз адпаведныя органы прафтэхнічнай асьветы ўжывае захады да падрыхтоўкі працаўнікоў па рацыяналізацыі на спэцыяльных курсах у БССР і СССР і да падвышэньня іх кваліфікацыі.

10. Для найбольшага скарыстаньня працаўнікоў па рацыяналізацыі ў прамысловасьці БССР, ЦБР сыстэматычна падлічвае працаўнікоў БР трэстаў і прадпрыемстваў ВСНГ БССР.

### Арганізацыя ЦБР.

11. ЦБР непасрэдна падпарадкавана Прэзыдыуму ВСНГ БССР, які назначае загадчыка ЦБР і ўстанаўляе асноўны штат ЦБР.

12. Распрацаваныя ЦБР мерапрыемствы пасьля зацьверджаньня Прэзыдыумам ВСНГ БССР набываюць абавязковую сілу для ўсіх працаўнікоў ВСНГ БССР, трэстаў і прадпрыемстваў і ажыцьцяўляюцца праз адпаведныя органы ВСНГ БССР.

13. ЦБР зьяўляецца прадстаўніком ВСНГ БССР па пытаньнях рацыяналізацыі на адпаведных зьездах і нарадах.

*Дадатак 2-гі.*

# Тыпавае палажэньне пра Бюро Рацыяналізацыі трэстаў ВСНГ БССР (БР).

## Мэты і задачы Бюро.

1. Бюро рацыяналізацыі трэсту ВСНГ БССР мае на мэце распрацоўку і дапамогу да ўжываньня мерапрыемстваў па рацыяналізацыі трэсту і яго прадпрыемстваў у галіне вытворча-тэхнічнай, сыравіннай, камэрцыйна-гаспадарчай і адміністрацыйнай для зьніжэньня сабекошту і падвышэньня якасьці прадукцыі і палепшаньня ўмоў працы, падлічваючы магчымасьць скарыстаньня вопыту іншых аднастайных па спэцыяльнасьці трэстаў і прадпрыемстваў, а таксама і запазычаньня чужаземных вытворча-тэхнічных досьледаў.

2. Адпаведна да паказанай мэты БР трэсту мае наступныя задачы:

а) сыстэматычнае вывучэньне работы трэсту (кіраўніцтва трэсту, яго аддзяленьняў і ўваходзячых у склад трэсту прадпрыемстваў) для выяўленьня слабых яе старон і ўжываньня мерапрыемстваў па рацыяналізацыі, якія накіроўваюцца да адхіленьня страт у гаспадарцы трэсту і да падвышэньня тэхнічнага і арганізацыйнага ўзроўню трэсту і яго прадпрыемстваў;

б) агульнае кіраваньне, інструктаваньне, нагляд і кантроль работы па рацыяналізацыі ў трэсьце і яго прадпрыемствах, дапасаваньне работы па рэканструкцыі і капітальнаму будаўніцтву да агульнага пляну рацыяналізацыі трэсту і яго прадпрыемстваў;

в) складаньне каляндарных плянаў ажыцьцяўленьня мерапрыемстваў па рацыяналізацыі і нагляд за правільным і сваечасовым выкананьнем зацьверджаных ва ўстаноўленым парадку плянаў па трэсту і яго прадпрыемствах;

г) сыстэматычны падлік навукова-дасьледчай работы лябараторыі пры трэсьце і яго прадпрыемствах у напрамку рацыяналізацыі вытворчых працэсаў, патаненьня перапрацоўкі, арганізацыі новых вытворчасьцяй і г. д., а таксама ўсялякая дапамога разьвіцьцю навукова-дасьледчай работы непасрэдна ў практыцы трэсту і яго прадпрыемствах;

д) непасрэднае азнаямленьне з работай адпаведных па спэцыяльнасьці цэнтральных навукова-тэхнічных арганізацый (навукова дасьледчых інстытутаў, спэцыяльных тэхнічных аб'яднаньняў і інш.) для плянамернага скарыстаньня гэтай працы праз адпаведныя апэрацыйныя органы трэсту ў практыцы трэсту і яго прадпрыемстваў, а таксама выяўленьне найбольш важных вытворча-тэхнічных пытаньняў, падлягаючых вырашэньню навукова-тэхнічных арганізацый;

е) дапамога прадпрыемствам трэсту ў арганізацыі органаў па рацыяналізацыі пры прадпрыемствах;

ж) распрацоўка агульных пытаньняў па рацыяналізацыі, якія маюць значэньне для ўсіх прадпрыемстваў трэсту;

з) падлік вынікаў усяе работы па рацыяналізацыі ў трэсьце і яго прадпрыемствах;

і) арганізацыя абмену вопытам паміж асобнымі прадпрыемствамі трэсту і падлік для практычнага скарыстаньня вытворча-тэхнічных дасягненьняў данага трэсту і інш. аднолькавай прамысловасьці;

к) арганізацыя запазычаньня чужаземных тэхнічных і арганізацыйных досьледаў, а таксама і досьледаў прадпрыемстваў СССР, пры дапамозе адпаведных органаў трэсту;

л) дача заключэньняў па пытаньнях рацыяналізацыі па запытаньнях органаў трэсту і яго прадпрыемстваў.

### Парадак работы БР.

3. Бюро рацыяналізацыі кіруецца агульнымі паказаньнямі і дырэктывамі кіраўніка трэсту і дырэктывамі ЦБР пры ВСНГ СССР і ВСНГ БССР, данымі паасобных прадпрыемстваў, вынікамі абсьледваньня і аналізу сабекошту прадукцыі, паасобнымі прапановамі, што ўносяцца вытворчымі нарадамі і канфэрэнцыямі, ІТЭС прафсаюзаў і інш. грамадзкімі арганізацыямі; перад пачаткам кожнага аперацыйнага году распрацоўвае і пэрыадычна перагледае з боку крытыкі пляны мерапрыемстваў па рацыяналізацыі, узгадняючы іх з адпаведнымі аперацыйнымі органамі і прадпрыемствамі трэсту і ўдзельнічае ў працы трэсту па складаньні плянаў разьвіцьця трэсту (прамфінпляну) і інш.

4. Распрацаваны БР плян мерапрыемстваў па рацыяналізацыі і атрыманыя пасьля абсьледваньняў вынікі разглядаюцца ў тэхнічных нарадах пры кіраўніку трэсту з удзелам працаўнікоў аперацыйных органаў трэсту і прадстаўнікоў прадпрыемстваў і зацьвярджаюцца кіраўніком трэсту.

5. Дзейнасьць БР наогул, а таксама асобныя мерапрыемствы па рацыяналізацыі, якія ажыцьцяўляюцца або ўжо ажыцьцёўлены, павінны асьвятляцца ў вытворчых канфэрэнцыях трэсту; адначасова БР павінен усялякім чынам дапамагаць скарыстаньню практычна-карысных прапаноў вытворчых нарад трэсту і паасобных прадпрыемстваў трэсту, а таксама прапаноў і вынаходак, якія паступаюць у трэст і яго прадпрыемствы ад паасобных працаўнікоў трэсту і са староны.

6. БР распрацоўвае іншыя пытаньні, якія не ўваходзяць у зацьверджаны плян працы толькі ў выключных выпадках, паводле асобных заданьняў кіраўніка трэсту.

7. БР для вырашэньня спэцыяльных пытаньняў, зьвязаных з правядзеньнем яго працы, запрашае ў якасьці экспэртаў спэцыялістых, якія працуюць у трэсьце і яго прадпрыемствах, або ў інш. трэстах і прадпрыемствах. Апроч таго на БР праз адпаведных аперацыйных працаўнікоў трэсту ўскладаецца абавязак устанаўленьня і падтрыманьня сталай сувязі з адпаведнымі навукова-тэхнічнымі і спэцыяльнымі арганізацыямі па рацыяналізацыі.

8. БР пэрыадычна склікае нарады працаўнікоў па рацыяналізацыі прадпрыемстваў трэсту і працаўнікоў інш. органаў трэсту для разгляду асноўных пытаньняў рацыяналізацыі, арганізацыі дасьледча-паказальных рацыяналізатарскіх работ на прадпрыемствах, а таксама ўжываньня інш. захадаў да абмену вопытам паміж асобнымі прадпрыемствамі трэсту.

9. БР сыстэматызуе матарыялы, якія паступаюць ад прадпрыемстваў, і на падставе гэтых матарыялаў і вынікаў свае працы складае пэрыадычную інфармацыю аб руху работ па рацыяналізацыі ў трэсьце і падае гэтую інфармацыю ЦБР ВСНГ БССР, а таксама асьвятляе найбольш важныя тэхнічныя і арганізацыйныя пытаньні работы па рацыяналізацыі ў органах друку і насьценных газэтах трэсту і інш.

### Арганізацыя БР.

10. Кіраваньне ўсёй дзейнасьцю БР належыць непасрэдна кіраўніку трэсту праз назначанага ім загадчыка БР.

11. Асноўны штат БР устанаўляецца і зацьвярджаецца кіраўніком трэсту па прадстаўленьню загадчыка БР.

12. Бюро рацыяналізацыі па пытаньнях рацыяналізатарскай працы зьяўляецца прадстаўніком трэсту на зьездах і нарадах.

*Дадатак 3-ці.*

## Тыпавае палажэньне пра Бюро Рацыяналізацыі ў прадпрыемствах трэстаў ВСНХ БССР.

### Мэты і задачы БР.

1. Асноўнай мэтай Бюро Рацыяналізацыі зьяўляецца распрацоўка мерапрыемстваў па рацыяналізацыі і дапамога іх ужываньню ў галіне вытворча-тэхнічнай, адміністрацыйнай і камэрцыйна-гаспадарчай дзейнасьці прадпрыемства трэсту ВСНГ БССР для зьніжэньня сабекошту, падвышэньня якасьці прадукцыі і палепшаньня ўмоў працы, падлічваючы магчымасьць скарыстаньня дасягненьняў іншых аднолькавых прадпрыемстваў, а таксама і запазычаньня чужаземных вытворча-тэхнічных досьледаў.

2. Адпаведна да паказанай мэты БР прадпрыемства мае наступныя задачы:

а) сыстэматычнае вывучэньне работы прадпрыемства, выяўленьне слабых яе старон і ўжываньне мерапрыемстваў па рацыяналізацыі, якія накіроўваюцца да адхіленьня страт у гаспадарцы прадпрыемства і да падвышэньня тэхнічнага і арганізацыйнага ўзроўню прадпрыемства;

б) агульнае кіраваньне, інструктаваньне і нагляд над працай па рацыяналізацыі ў прадпрыемстве, дапасаваньне работы па рэканструкцыі і капітальнаму будаўніцтву да агульнага пляну рацыяналізацыі прадпрыемства;

в) складаньне каляндарных плянаў мерапрыемстваў па рацыяналізацыі;

г) нагляд за правільным і сваечасовым выкананьнем зацьверджаных ва ўстаноўленым парадку плянаў;

д) сыстэматычны падлік вынікаў працы па рацыяналізацыі ў прадпрыемстве;

е) дача заключэньняў па пытаньнях рацыяналізацыі па запытаньнях інш. органаў прадпрыемства.

### Парадак работы БР.

3. Бюро рацыяналізацыі кіруецца агульнымі дырэктывамі і паказаньнямі дырэктара прадпрыемства і дырэктывамі БР адпаведнага трэсту і ЦБР пры ВСНГ БССР, вынікамі абсьледваньня, данымі аналіза сабекошту, а таксама прапановамі інш. органаў прадпрыемства, вытворчых нарад і грамадзкіх арганізацый, перад пачаткам кожнага аперацыйнага году распрацоўвае і пэрыядычна пераглядае з боку крытыкі плян мерапрыемстваў па рацыяналізацыі, узгадняючы яго з працай інш. органаў прадпрыемства і з БР трэсту, і ўдзельнічае ў працы прадпрыемства па складаньню плянаў разьвіцьця прадпрыемства (прамфінпляны) і інш.

4. Распрацаваны БР праект мерапрыемстваў па рацыяналізацыі і атрыманыя пасьля абсьледваньня вынікі разглядаюцца ў тэхнічных

нарадах пры дырэкцыі прадпрыемства і зацьвярджаюцца дырэктарам прадпрыемства, пасьля ўзгадненьня з адпаведным трэстам.

5. Дзейнасьць БР наогул, а таксама асобныя мерапрыемствы па рацыяналізацыі, якія ажыцьцяўляюцца і ажыцьцёўлены, павінны асьвятляцца на вытворчых нарадах прадпрыемства. Адначасова БР павінна ўсялякім чынам дапамагаць скарыстаньню практычна карысных прапаноў вытворчых нарад, а таксама прапаноў і вынаходак, якія паступаюць з боку працаўнікоў прадпрыемства і са стараны.

6. БР распрацоўвае інш. пытаньні, якія не ўваходзяць у зацьверджаны плян працы, толькі ў выключных выпадках, паводле асобных заданьняў дырэктара прадпрыемства.

7. Сваю дзейнасьць на прадпрыемстве БР праводзіць пры ўдзеле ўсіх спэцыялістых прадпрыемства.

Калі-ж адпаведныя спэцыялістыя па асобных пытаньнях рацыяналізацыі на прадпрыемстве адсутнічаюць, БР мае права прыцягваць для кансультацыі інш. працаўнікоў адпаведнага трэсту і яго прадпрыемстваў, а таксама прасіць кансультацыі і дапамогі навукова-тэхнічных арганізацый, спэцыяльных тэхнічных і рацыяналізатарскіх кантор.

8. БР падае дырэктару прадпрыемства і БР трэсту справаздачы аб сваёй дзейнасьці ва ўстаноўленыя БР трэсту тэрміны і паводле выпрацаванай ім формы.

### Арганізацыя БР.

9. Кіраваньне ўсёй дзейнасьцю БР належыць непасрэдна дырэктару прадпрыемства праз назначанага ім загадчыка БР.

10. Штат БР устанаўляецца дырэктарам прадпрыемства па згодзе з БР трэсту.

11. БР па пытаньнях працы па рацыяналізацыі зьяўляецца прадстаўніком прадпрыемства на зьездах і нарадах.

12. Усе распрацаваныя БР мерапрыемствы, пасьля зацьверджаньня ва ўстаноўленым парадку дырэктарам прадпрыемства, маюць абавязковы характар для працаўнікоў адпаведнага прадпрыемства. Гэтыя мерапрыемствы непасрэдна ажыцьцяўляюцца праз адпаведныя органы прадпрыемства.

---

## 27. Ад Урадавай Камісіі па падрыхтоўцы правядзеньня 7-гадзіннага рабочага дню пры СНК БССР.

Сьпіс № 1.

У дапаўненьне да пэраведзеных на 7-гадзінны рабочы дзень прадпрыемстваў у БССР, Урадавая Камісія па падрыхтоўцы 7-гадзіннага рабочага дню пры СНК БССР публікуе наступны сьпіс прадпрыемстваў, што падлягаюць пераводу ў 1929 годзе на 7-гадзінны рабочы дзень:

1. Запалкавая фабрыка „Чырвоная Бярэзіна“ (новая)—у ліпені;
2. Дрэваапрацоўчы камбінат у Бабруйску—у маі;
3. Швэйная фабрыка „Меншвей“ (новая)—у ліпені;
4. Галянтарэйная фабрыка ў Менску—у маі.

Старшыня Урадавай Камісіі па правядзеньні 7-гадз. рабочага дню пры СНК БССР *К. Бэнэк.*

Адказны Сакратар *Х. Гольдзінбэрг.*

19 сакавіка 1929 г.

---

Адказны рэдактар **І. Фрыдман.**

## ХУТКА ВЫЙДЗЕ З ДРУКУ

КНІГА

В. П. СУШЧЫНСКІ

# ЗАКАНАДАЎСТВА
## АБ ПРАЦЫ СССР і БССР

**КОДЭКС ЗАКОНАЎ АБ ПРАЦЫ БССР З ВЫДАНЫМІ ДЛЯ ЯГО РАЗЬВІЦЬЦЯ ПАСТАНОВАМІ, ІНСТРУКЦЫЯМІ, ТЛУМАЧЭНЬНЯМІ І АБЕЖНІКАМІ.**

**Выданьне РВА ЦСПСБ**

**Прыблізная цана кніжкі 2 рублі**

**Заказы накіроўваць па адрасу: МЕНСК, ПЛЯЦ ВОЛІ, РВА ЦСПСБ**